


Андрэй Хадановіч

# Разам з пылам

*Калекцыя перакладаў*

Мінск, «Кнігазбор», 2013

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)
Х-14

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Выпуск 40.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

Перакладчык шчыра ўдзячны Марыне Шодзе, а таксама Юрасю Бушлякову, Міколу Раманоўскаму, Валянціну Акудовічу, Адаму Паморскаму, Лявону Баршчэўскаму, Уладзімеру Арлову, Галіне Сініле, Сяргею Карчыцкаму, Марыі Мартысевіч, Антону Францішку Брылю, Ганне Янкуце, Кацярыне Маціеўскай, Юлі Цімафеевай, Антону Рудаку за каштоўныя парады і неацэнную дапамогу на розных этапах працы над кнігай.

**Хадановіч, А.**
Х-14 Разам з пылам : калекцыя перакладаў / Андрэй Хадановіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 200 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 40).
ISBN 978-985-7057-49-8.

У кнізе сабраныя вершаваныя пераклады з сямі моваў, зробленыя цягам пятнаццаці гадоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-49-8**

# З ЛАЦІНЫ

## *Гай Валерый Катул*

* * *

Ліце слёзы, Венеры й Купідоны,
Плачце, людзі, што ў сэрцы маюць літасць!
Бо сканаў верабейка маёй любай,
Верабейка, уцеха маёй любай,
Ёй за ўласныя вочы даражэйшы.
Далікатны, як мёд, ён гаспадыню,
Як дачка — сваю маці, блізка ведаў,
Не сыходзіў ніколі з яе ўлоння,
Але пырхаў па ёй туды й сюды ён
І заўжды для адной яе цырыкаў...
А цяпер ён ідзе сцяжынай цёмнай
У краіну, адкуль няма вяртання.
Будзь жа выкляты, люты морак Орка:
Праглынаючы ўсё, што сэрцу міла,
Ты любімага выкраў верабейку!
О, злачынства! О бедны верабейчык!
Праз цябе ад рыданняў у каханай
Сёння ўспухлі й пачырванелі вочкі.

*Квінт Гарацый Флак*

## Ода да Мецэната

На дужых, гожых крылах сягаючы
Ў аблiччы новым высі нябеснае,
  Пясняр — і птах! — зямлю пакіну
    І гарады, дзе пануе зайздрасць.

Бацькоў нязнатных бедны атожылак,
У дом табою ветла запрошаны,
  Мой Мецэнаце, не памру я,
    Не пагражаюць мне хвалі Стыкса.

Ужо галёнкі скура шурпатая
Сцягнула моцна, белаю птушкаю
  Раблюся, і рамёны й рукі
    Лёгкія пёры мне пакрываюць.

Вышэй за сына мчацьму Дэдалава,
Пяюн крылаты, бераг Басфора я
  Угледжу шумны, і гетулаў
    Сірты, і гіпербарэйцаў стэпы.

Вядомы стану дакам, што ў вусцішы
Ад вояў Рыма, колхам, дасведчаным
  Іберам і гелонам дальнім,
    Галам, якія п’юць ваду з Роны.

Дык хай не будзе плачу хаўтурнага,
Агідных стогнаў, скаргаў з уздыхамі!
  Стрымай свой енк, не трэба марных
    Ушанаванняў пустой магіле!

# З ФРАНЦУЗСКАЙ МОВЫ

***Франсуа Віён***

## Эпітафія Віёна
*(Балада шыбенікаў)*

Пачцівыя, спагадлівыя людзі,
Браты, што нас перажылі, нябог,
Хто да няшчасных літасцівым будзе,
З таго калісьці злітуецца Бог!
Вось мы ў пятлі ўпяцёх альбо ўшасцёх,
А цела хорам, колісь дагляданы,
Дазвання зруйнаваны, пажыраны
І жменькай пылу зробіцца ў свой час.
Тут недарэчы здзек і гумар танны:
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Няўжо з пагардаю ці ў перапудзе
Забудзеце аб ветраных братох?
Няхай нас пакарала Правасуддзе,
Ды хто з людзей спакусу перамог?
Пусціце міласэрнасць на парог,
Каб справядлівы сын Марыі Панны
Нам даравай правіны і заганы
І ўратаванне душаў нам прыпас.
Спакой памерлых варты вашай шаны,
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Мы парахнеем у брыдзе і брудзе
На ростанях усіх зямных дарог,
Нам злівы да касцей прамылі грудзі,
Птах выдзеўб нашы вочы, як гарох,
Бароды й бровы скуб як толькі мог.
Нас не чакае супакой жаданы:
Туды-сюды вятрыска несціханы
Нас гойдае, астатнім напаказ.
Дык пашкадуйце, людзі, нашы раны,
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Ісусе, Збаўца, ўсімі шанаваны,
Хай лёс пякельны, нам наканаваны,
Ахвяраў абміне на гэты раз!
Хто з нас смяецца, будзе пакараны!
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

*Франсуа Малерб*

## Наследаванне псалму CXLV

Хай душа да спакусаў зямных не паверне!
Іх вабноты — што хвалі на воднай паверхні,
   Якім вецер спачыць не дае.
Марны гонар адкінь, гэта гібельны трунак,
   Бог жыццё даў табе ў падарунак,
   Толькі Ён варты шаны твае.

Каля тронаў манархаў, трываючы кпіны,
Мы ганебна згінаем калені і спіны,
   Каб узвысіцца ўсякай цаной.
Толькі тыя, на тронах, — звычайныя людзі:
   Кожны колісь нябожчыкам будзе,
   Апынецца сам-насам з труной.

Усясветную веліч, раздзьмутую пыху
Смерць пускае на глум, надышоўшы паціху:
   Мерцвякі й цішыня на вякі!..
Ці ты моцны ўладар, ці прыніжаны лёкай —
   У зямліцы ляжы й не галёкай,
   Покуль цела грызуць чарвякі!

Шанавальнікі міру, аматары бітваў,
Іх імёнаў і ў кнізе ніхто не вычытваў...
   Дзе іх скіпетры, дзе іх пасад?..
А каля ўладароў — бедакі, недалугі —
   Лягуць іхнія верныя слугі,
   І нікога не вернеш назад.

*Венсан Вуацюр*

## Санет да Ураніі

Ураніі служу і ўвечары, і ўранні,
Не маючы надзей на ўцёкі і гады.
Я трапіў у яе вязніцу назаўжды:
Няволя — родны дом, свабода — на выгнанні.

Уранія — як лёд, і літасці — ні звання,
Ды бласлаўляю боль, гатовы сапраўды
Дзеля яе красы загінуць без жуды.
Спагады не прашу, тым больш — выратавання.

Мой розум пачуццю гаворыць, што дарма
Прывабіла мяне любоўная турма,
І трызніць воляю, і ўзбунтавацца кліча,

І хоча ратаваць у смутку і бядзе...
Ды раптам згадвае каханае аблічча —
І перш за пачуццё ў палон яе ідзе.

*Жэрар дэ Нэрваль*

## Сон у экіпажы

І бачылася мне, што паўз дарогу вязы
Бягуць, змяшаўшыся, як войска ад паразы.
Выбоіны і брук гайдалі на зямлі,
Як вецер штармавы гайдае караблі.

Дахоўкай крытыя пабеленыя хаткі
Званіцы-пастухі ў свае збіралі статкі,
І кожны гарадок, і кожнае сяло
За пастухом сваім чародкаю брыло.

І ўсё хісталася: і горы — як прапойцы,
І рэчка, што змяёй сціскала іх у бойцы
Сталёвым абручом... І экіпаж, дзе мне
Ўсё гэта толькі што прымроілася ў сне.

## Паштовая станцыя

Карэта спыніцца. Выходзьце. Адпачынак.
Хоць трохі пехатой, хоць некалькі хвілінак
Без коней, фурмана і гучных бізуноў.
Мінаеш два дамы — і ты шчаслівы зноў.

Перад табой наўсцяж чароўная раўніна,
Паўсюль квітнее бэз, буяе зеляніна,
Паміж таполямі прыветлівы ручай —
І хто там гаварыў пра стому і адчай?!

Прыляжаш, зваблены духмянаю травою.
Не думаць ні пра што, пакуль над галавою

Аблокі чарадой плывуць сабе ўгары...
Ды раптам чуецца: «Ў карэту, спадары!»

## У алеі Люксембургскага саду

Яна прайшла, дзяўчына-птушка,
Раптоўная, нібы павеў.
Ёй краскі спавівала стужка,
Ёй вусны упрыгожыў спеў.

Ці не адзіная істота,
Што пакахаць мяне магла
І ў прыцемкі маёй самоты
Прынесці каліва святла!

Ды час старому заняпасці,
І сонца больш не ахіне!
Дзяўчына, водар, песня... Шчасце,
Што праляцела паўз мяне!

## У гаі

Ён з'явіцца ў свет напрадвесні
Для спеваў: нібы ручаі,
Ліюцца чуллівыя песні,
Птушыныя песні ў гаі!

Пасля — для яе — назаўсёды
Збудуе ў любоўным раі
Прытулак пяшчоты і згоды,
Птушыную хату ў гаі!

Ён змоўкне зімою заўчаснай.
На жаль! Але скруху стаі,
Бо некаму ўявіцца шчаснай
Птушыная смерць у гаі!

## Сабор Парыжскай Божай Маці

Ён сапраўды стары. Наш век яму — імгненне.
Парыжа ўбачыць скон, як колісь — нараджэнне.
Ды ўсё ж драпежны Час усадзіць кіпцюры
Ў цяглiцы-камяні, і будзе рваць штосілы
Яго жалезныя скалечаныя жылы,
І да касцей згрызе славутыя муры!

І прыйдзе шмат людзей з усіх зямных краінаў,
Каб на яго зірнуць, між велічных руінаў
Памроіць, а пасля перачытаць Гюго.
І здасца ім, што цень старое базілікі,
Бы ў лепшыя гады, магутны і вялікі,
Як прывід, паўстае з мінулага свайго!

## El Desdichado

Я змрочны, я ўдавец, я згустак паражні,
Я Аквітанскі прынц на зруйнаванай вежы,
Бо *зорка* любая пагасла ў вышыні,
А *сонца чорнае* — бы з вусцішнай вiдзежы.

З магільнай цемрадзі ўратуй мяне, вярні
Спустошанай душы Італіі ўзбярэжжы,

Альтанку, што калісь мне аздабляла дні,
І вінаградны смак, і ружы водар свежы.

Я Феб? Альбо Амур? Я Лузіньян? Бірон?
У гроце сноў маіх гучаць сірэны спевы,
А чырвань на чале — след вуснаў каралевы.

Я двойчы пераплыў жахлівы Ахерон...
І ў лірнай варажбе ўваскрэслага Арфея
Святая скардзіцца і прамаўляе фея.

## Залатыя вершы

Так! Усё ў свеце адчувае!
*Піфагор*

Няўжо ты думаеш, у дзёрзкай пахвальбе,
Што мысліш ты адзін?
Сусвет — жывы й бясконцы:
Ты назапасіў сіл, бы грошай у скарбонцы,
Ды свету ўсё адно, што маеш ты ў ілбе.

Зірні, металу жарсць стаілася ў журбе,
І дзейны дух жыве ў звярынай абалонцы;
У кветкі ёсць душа, што цягнецца да сонца, —
«Ўсё адчувае». Ўсё ўплывае на цябе.

Страшыся, вочы ёсць і ў каменя сляпога,
Гаворыць моваю сваёй нямая рэч.
Матэрыя — жытло нязведанага Бога,

Не абражай яго і рэчам не пярэч!
Як ранішні пагляд праз вейкі прамяніцца,
Так чысты дух расце з каменнае вязніцы.

*Шарль Бадлер*

## Прадажная муза

О муза любая, у найчарнейшы дзень
Ад сцюжы, сіверу й зімовае галечы
Ці знойдзеш на зямлі прытулак чалавечы,
Ці будзе галаўня, каб не пагас агмень?

Ці ў студзеньскую ноч табе сагрэе плечы
Праз ледзяное шкло маладзіка прамень?
Халоднае святло не сыплецца ў кішэнь
Сузор’ямі манет з нябеснае сінечы!

Каб зарабіць на хлеб, як служка пры царкве,
Што ладан там кадзіць і з гэтага жыве,
Амаль не верачы, штодня пяеш *Te Deum*

Ці агаляешся, спрабуючы наспех
Крыўляцца й выціскаць з нябачных слёзаў смех
І блазанкай служыць заможным дабрадзеям.

## Валасы

О, локанаў каскад, што падае на спіну!
О, пекнага руна найчараўнейшы пах!
Крануся іх красы, як водарнай хусціны, —
І прыцемны алькоў прасякнуць успаміны,
Схаваныя ў тваіх духмяных валасах!

І спёка Афрыкі, і ўсе аздобы Ўсходу,
Амаль забыты свет у новым харастве
Знячэўку паўстае, падняўшыся са споду.

Як людзі ў музыцы шукаюць асалоды,
Мой дух, нібы ў вадзе, у водары плыве.

Там у паўдзённы сквар мурыны і матросы
Між волатавых дрэў знаходзяць пэўны схоў.
Праз чорны акіян і морскія дзівосы
Вядуць мяне твае прываблівыя косы
Ў краіну ветразяў, і мачт, і маракоў.

П’е водары душа, і колеры, і гукі
З крыніцаў усяго, што будзе і было;
У залатой смузе без вонкавай прынукі
Вандроўны карабель нібыта цягне рукі,
Спрабуючы абняць спрадвечнае святло.

Нырэц у кудзеры, вандроўнік па каханцы,
Я так і не сягну дна гэтай глыбіні
І твой марудны рух пазнаю па гайданцы,
Лянота плённая, каб розумам выгнанца
Нарэшце зразумець: «Вось дом твой, адпачні!»

О пасмы, вы шацёр блакітнага сутоння,
Вы цягнеце да зор і вабіце далей!
Ледзь пухкіх павіткаў крануліся далоні,
Я занураюся ў пахучае прадонне —
У мускус, у смалу й какосавы алей.

Сапфіры з перламі — ў карону чараўніцы!
Рубін і дыямент аздобяць галаву
Табе, аазіс мрой, дзе мне былое сніцца,
Між выдмаў забыцця — гаючая крыніца,
З якое п’ю віно ўспамінаў — і жыву!

## Танец змяі

Глядзеў бы на любае цела,
   П’янеў ад красы,
Каб скура твая зіхацела,
   Твае валасы

Ахутвалі пахам салодкім
   І горкім, як дым:
У моры духмяным, зіхоткім,
   Блакітным, рудым,

Як вецер, што ранняй парою
   У ветразі б’е,
Душу маю клічуць па мрою
   Нябёсы твае.

Ні слодычы, ані гаркоты
   Ў вачэй глыбіні,
Адно серабро й пазалота
   Ў халоднай гульні.

Рытмічныя звівы такія
   І постаць твая
Чаруюць, нібыта ля кія
   Танцуе змяя.

У рухах — пагойдванне колаў,
   Пустынь шырыня;
Лянотна ківаецца голаў,
   Нібы сланяня...

Ты бездань, што ў буры звярэе
   І б’е ў карабель,

У глыб панураючы рэі,
   Нібыта ў купель;

Ад хваляў няма паратунку
   Ў лядовую таль:
Цячэ плынь твайго пацалунку,
   Шляхетны крышталь,

Нібы пераможны і горкі
   Багемскі напой,
Што ў сэрцы запальвае зоркі
   Й завецца табой!

## Вечаровая гармонія

Гэта час, калі ў летнім духмяным паўзмроку
Кветкі, нібы кадзілы, струменяць нектар;
Перагукванне фарбаў, і пахаў гушчар,
Рэха сумнага вальса гучыць недалёка.

Кветкі, нібы кадзілы, струменяць нектар;
Плача скрыпка, як сэрца, без словаў папроку;
Рэха сумнага вальса гучыць недалёка;
Неба сумнае й пекнае, нібы алтар.

Плача скрыпка, як сэрца, без словаў папроку;
Плача сэрца, нябыт памята́ючы ў твар!
Неба сумнае й пекнае, нібы алтар;
Човен сонца ў крывавую рушыць сутоку!

Плача сэрца, нябыт памятаючы ў твар,
І прыкметы былога намацвае вока.
Човен сонца ў крывавую рушыць сутоку...
Ты жывеш ува мне дараносіцай мар!

## Прага нябыту

Пануры дух, змагар у лепшыя часіны,
Скарыся й адпачні, у роспачы замры.
Ты ўжо загнаны конь, мы ўжо не ваяры,
Калі надзеі біч тваёй не хвошча спіны!

Дык занурыся ў сон, тупы і несупынны.

Табе, нядужы дух, знявечаны, стары,
Каханне прынясе адно разлад і кпіны!
Бывайце, трубны марш і флейты каваціны!
Нас не прывабяць больш спакусніцы дары,

Не ўчуем водару вясновае пары!

Бо прагавіты Час мае грызе хвіліны,
Прыбралі цела ў снег зімовыя вятры.
На круглую зямлю гляджу цяпер згары
І не шукаю тут для схавішча хаціны —

Хай у апошні схоў нясуць мяне лавіны!

## Выклятыя жанчыны

Іх вочы п'юць блакіт, а целы ў захапленні
Спачылі на пяску задумнай чарадой.
Рука знайшла руку, сустрэліся калені
І горкая туга — з салодкаю жудой.

Адны чакаюць слоў любоўнага прызнання
Ў гаях, дзе ручаі бруяцца ў гушчары:
Чытаюць па складах дзіцячае каханне,
Каб напісаць адказ на маладой кары;

Другія йдуць туды, дзе скалы, нібы вежы,
Дзе некалі пасціў самотны дабрадзей
Антоні, а з нябёс валіліся відзежы —
Раптоўнай лаваю аголеных грудзей;

Ёсць тыя, што бягуць у тайныя пячоры
І Бахусу пяюць паганскі хваласпеў,
Каб старажытны бог ім суцішаў дакоры
Сумлення й вечны боль хоць зрэдчасу слабеў!

І іншыя, што боль прымаюць, як пяшчоты,
Пад мнішай расаю хаваючы канчук,
І ў цемрадзі лясоў, і ў вусцішы самоты
З юрлівай слінаю мяшаюць слёзы мук.

Цнатліўкі й дэманы, абранніцы й пачвары,
Ваш дабрадзейны лёс, ваш апраметны шлях —
Адрынуць існае, палюючы на мары,
Бясконцага шукаць у стогнах і слязах!

Усіх вас, як сясцёр, пакутніцы адвагі,
Шкадую і люблю, у велічы й на дне —
За чорную тугу, за неспатольнасць прагі,
За сэрцы, дзе любоў спачыла, бы ў труне.

## Чужаніца

— Загадкавы чалавек, скажы, каго ты любіш
найбольш? Бацьку, маці, сястру ці, можа, брата?
— Я не маю ні бацькі, ні маці, ні сястры, ні брата.
— Можа, сяброў?
— Вы ўжываеце слова, якога я дагэтуль
не разумею.

— Айчыну?
— Я не ведаю, на якіх яна шыротах.
— Прыгажосць?
— Я палюбіў бы яе, будзь яна несмяротнай
багіняй.
— Золата?
— Я ненавіджу яго, як вы ненавідзіце Бога.
— Дык што ж ты любіш, дзіўны чужынец?
— Я люблю аблокі... аблокі, што праплываюць
там... угары... цудоўныя аблокі!

*Стэфан Малармэ*

## Званар

Калі прачнецца звон на кляштарнай званіцы,
Сягае вышыні й вяртаецца далоў
І, ўкленчыўшы, дзіця ў лавандзе й медуніцы
Анёла Панскага не забывае слоў —

Там, угары, дзе птах не можа ўгаманіцца,
Званар на камені і з лінамі званоў
Ледзь чуе іхні спеў і, нібы чужаніца,
Мармыча роспачна штось на лаціне зноў.

Ён — гэта я, на жаль! У цемрадзі раз-пораз
Я б'ю ва ўсе званы, каб выславіць Святло,
Але не паляціць заганнае крыло —

І не пяе мой звон. Што ж, я заўсёдны поўраз
(Дай веры, Люцыфер!) перараблю ў пятлю
І з каменя свайго аднойчы саступлю!

## Блакіт

Насмешлівы Блакіт, празрысты і бясконцы,
Красуе і гняце паэтаў дар слабы,
А тклівы ткач красы кляне свае красёнцы
Між выдмаў роспачы, нязмогі і журбы.

Ратуйся! Сціснутых павекаў цемру вызнай,
Каб скрухаю душу не свідравала сінь!
Бяжы! Але куды? Шмаццё, рыззё, старызну
Суворай цемрадзі на сорам дня накінь!

Тумане, загусцей, святло дарэшты знішчы
І шэраю смугой нябёсы зацягні:
Над бледнай вільгаццю асенняга гарышча
Зрабі дыхтоўны дах суцэльнай цішыні!

Каханая Нуда, з лецейскага ўзбярэжжа
Ляці, ды прыхапі трысцё, і твань, і глей:
Прагаліны сінцу, што птаства ў небе рэжа,
Замазкай багнавай, прашу цябе, заклей!

Каб жа шчэ коміны над кожнай камяніцай
Па сонцы попелам стралялі наўздагон!
Каб збыўся ў сопусе вандроўнае вязніцы
Ліхтарні жоўтае наканаваны скон!

Нябёсы — мёртвыя! Матэрыя, благаю,
Ад путаў памяці мяне аслабані!
Забыць свой Ідэал, забіць згрызотаў зграю
І спаць з людскім быдлём на дарагім даржні!

Я розум змарнаваў, і мазгаўё старое,
Як скрынка з-пад румян, нічый не спыніць крок:
Абрысы ўласных мрой я прыбіраў у строі,
Каб сёння пазяхаць у замагільны змрок...

Намарна! Зноў жыве нязможная сінеча:
Яна гудзе ў званах загубаю душы,
Бо столькі роспачы і столькі варажнечы
Нясе мне хваласпеў блакітнае імшы!

Спрадвечны трон ізноў застаўся непахісны.
Узброеная сінь вар'ята б'е наўскід.
Няма ратунку. Бунт — бясплённы й бескарысны.
*Я выкляты*. Блакіт! Блакіт! Блакіт! Блакіт!

## Дар паэмы

Табе нясу дзіцятя начной эдомскай зморы!
Крывавакрылае, згубіўшы свае пёры,
Праз поўны водару і золата крышталь,
Праз шыльнік шэрані (на шыбінах, на жаль!)
Світанне ў парасі лампаднага каджэння,
О пальмы! падае на гэта спараджэнне;
Рот бацькаў крывіцца гіморамі агід,
І захлынаецца самотаю блакіт.
А ты, кунежніца, дачку на ўлонкі пусціш,
І, бласлаўляючы народжаную вусціш,
Твой голас загучыць, салодкі чарадзей...
Сівілінай рукой ці выціснеш з грудзей
Хоць кроплю беліні, такой доўгачаканай
Для вуснаў, спаленых сінечай беззаганнай?

* * *

У вонкавай красе і беззаганнай ісце,
Ці сёння разаб'е ў парыве шчасных крыл
Вязніцу возера, дзе з ледзяных магіл
Памкненняў чарадзе няма на волю выйсця?

Хоць памятае шчэ пра вольны небасхіл
Магутных лебедзяў святоўнага Калісьці,
Змаганне з караю не прынясе карысці,
Бо вырай вынайсці не стала песні сіл.

Насланне роспачы на хвілю стрэсці з шыі,
Але, не здужаўшы зімовай летаргіі,
Ва ўладзе беліні між крыгаў несці крыж.

Вялікасная здань сама стаецца льдзінай,
Бо, нат чакаючы адлігі, адылі ж
У гордым холадзе відзежы лебядзінай.

*Арцюр Рэмбо*

## Баль шыбенікаў

На шыбеніцы апантана
Ўсё танчаць, танчаць, вісячы,
Шкілеты з воінства Шатана,
Пякельныя паслугачы.

Вялебны Вельзевул валадаром на балі,
Крыўлякаў, што ў пятлі блюзнерацць задарма,
Б’е туфляю па лбах, каб весялей скакалі
Пад акампанемент каляднага псалма.

І кожны ачмурэў, страсае ў танцы косці,
Аб грудзі б’е грудзьмі, бы грукае ў тамтам,
Прыпадачна хрыпіць у вычварнай мілосці,
Хоць колісь прыпадаў да вытанчаных дам.

Агромністы памост дае танцорам шанец —
Гоп! — весела скакаць без мяса і вантроб!
І ўжо не зразумець, ці гэта бой, ці танец!
Рве струны Вельзевул, вядомы філантроп!

Кашуляў скураных пазбыліся амаль што,
Абутак не псуе ім лёгкае ступы,
Не муляе даўно шляхетных шыяў гальштук,
А снег капелюшы напнуў на чарапы.

Крумкач, нібы султан, сядае на галовы.
Вісіць на барадзе шматок былой шчакі.
Здаецца, ваярам, расцятым да паловы,
Кардоннага мяча не выпусціць з рукі.

Ад гойсання ўваччу хістаюцца нябёсы,
Ліловыя лясы працяў ваўчыны сквіл,
Вісельня, як арган, скавыча шматгалоса,
Й пякельнай чырванню палае небасхіл.

Ану хутчэй скакаць, здыхляціна старая,
Што лашчыць неўпрыкмет ружанец пазванкоў,
Нібыта пацеркі манах перабірае:
Тут вам не манастыр, а кодла мерцвякоў!

Ах! Вунь, сапселы ўшчэнт ад замагільных скокаў,
Вялізарны шкілет узняўся на дыбкі,
Узвіўся ў вышыню, шчасліва загалёкаў,
Ды раптам зноў адчуў пятлі прыгнёт цяжкі,

І з енкамі, што так падобныя да кпінаў,
Сціскаючы ў кулак нявыслаўлены жаль,
Як блазан, што на міг свой балаган пакінуў,
Пад музыку касцей вяртаецца на баль.

На шыбеніцы апантана
Ўсё танчаць, танчаць, вісячы,
Шкілеты з воінства Шатана,
Пякельныя паслугачы.

## Вечаровая малітва

Нібы ў цырульніка — бязвусы херувім,
Сяджу над кухлем я — дзясятым?
дваццаць пятым? —
Глытаючы напой і з люлькі горкі дым,
І робіцца жывот, як ветразі, напятым.

Бы галубоў памёт — гарачы, кожны ўздым
Так мроямі пячэ, што радуюся стратам.
А сэрцу не баліць, бо жорсткая кара там,
І лісце падае крывава-залатым.

Калі ж перажаваў і праглынуў без хлеба
Ўсе мроі, то на двор паклікала патрэба:
Пасля піўной ракі не лопнула нутро б!

Як ласка Божая — на кедр і на ісоп,
Бурштынавы струмень паліўся проста ў неба,
І голаў перад ім схіліў геліятроп.

## Венера Анадыямена

Бы з цынкавай труны, з глыбокай ванны ржавай,
Уся ў памадзе — каб паболей хараства! —
Вынырвае з вады... не, выплывае павай
Цёмнавалосая дурная галава.

За шыяй тоўстаю з'яўляюцца лапаткі,
Абвіслыя бакі глядзяць ва ўсе бакі,
Ружовыя клубы — крутыя кумпякі,
Шматпавярховы тлушч падзелены на складкі.

Па спіне і ніжэй рассыпаны лішай.
Агідная краса... Хоць знаўцаў запрашай
Ды ў мікраскоп глядзі на гэты цуд у ванне!

На задніцы — тату́, чытаеш — і трымціш:
Два словы з двух бакоў,
«БАГІНЯ» і «КАХАННЯ».
І язва анусу адкрылася — паміж.

# Скрадзенае сэрца

Плюецца сэрца, бо абрыдла
Трываць насмешкі на карме.
Пакуль жартуе гэта быдла,
Плюецца сэрца, бо абрыдла.
Глытаю гідкае павідла —
І толькі гідкае наўме.
Плюецца сэрца, бо абрыдла
Трываць насмешкі на карме.

Малююць проста на штурвале
З юрлівым рогатам жлабы:
Хер з яйцамі намалявалі,
Малююць проста на штурвале.
Вышэй, абракадабры хвалі,
Адмыйце сэрца ад журбы!
Малююць проста на штурвале
З юрлівым рогатам жлабы.

Што будзе, скрадзенае сэрца,
Як ім не хопіць тытуню?
У іх адрыжцы столькі перцу,
Што будзе, скрадзенае сэрца?
Ці званітуе людажэрца?
Ён звык. І мне — не ўпершыню.
Што будзе, скрадзенае сэрца,
Як ім не хопіць тытуню?

## Галосныя

«А» — чорны, белы — «Е», чырвоны — «І»,
зялёны —
«У», сіні — «О», ваш сэнс адкрыю паслядоўна.
«А» — чорных мух карсэт: пякельная князёўна,
Сядаючы на труп, гудзе свае праклёны;

«Е» — велічных шатроў бялюткая бавоўна,
Вяршыні снежных гор, узнёслыя калоны;
«І» — пурпур каралёў і вуснаў смех шалёны —
Каханне? крыўда? гнеў? —
прыўкрасных усё роўна;

«У» — хвалі боскія смарагдавай стыхіі,
Лагода на лугах — і ў зморшчынах, якія
Алхіміку ўначы спярэсцілі чало;

«О» — найвышэйшы горн, яшчэ нячутны долу,
Вымоўнасць цішыні, даступная Анёлу,
Амега — і гарыць Вачэй Яе святло!

## Шукальніцы вошай

Калі чырвоны лоб расчуханы дазвання,
Да хлопчыка ідуць дзве добрыя сястры,
Схіляюцца над ім, як два выратаванні:
Іх пальцы тонкія, пазногці ў серабры.

Саджаюць да святла спалоханага мальца,
І кветкі за акном шалеюць ад расы,
Пакуль чароўныя і вусцішныя пальцы
Абходзяць вартаю густыя валасы.

Ён чуе, як пяе дзявочае дыханне,
Як расквітае ў ім мядовы летні пах,
Гук сліны ўцягнутай, нібы сваё каханне
І прагу цалаваць хаваюць на губах.

Ён чуе, як дрыжаць у цішыні іх вейкі,
Як робіцца рука імклівейшай за нож,
Як з ціхім трэсканнем знішчаюць чарадзейкі
Пазногцем велічным маленечкую вош.

Ён ап’яняецца гаючаю лянотай,
У сэрцы — музыка, туман і любадаць:
То гіне, то жыве няпрошанай пяшчотай
Непераможнае жаданне зарыдаць.

## П’яны карабель

Калі я вырваўся, бо не ўтрымалі лейцаў,
Загінуўшы ад ран, мае вартаўнікі:
Каналі на слупах пад стрэламі індзейцаў, —
Мяне панесла ўніз, за плыняю ракі.

Пшаніца з Фландрыі й брытанская бавоўна
Не хвалявалі больш, да д’ябла лішні груз!
Увесь мой экіпаж забіты — і цудоўна.
Я плыў у акіян і забываў прымус.

У дзікім плёскаце прыліваў мяне мчала...
Мой розум да вясны заснуў, як немаўля.
Я плыў!.. Паўастравы зрываліся з прычала,
Не ў змозе вытрымаць свабоды карабля.

Шторм абудзіў мяне — і, лёгкі, нібы корак,
Я танчыў з хвалямі, вазніцамі ахвяр.

Я дзесяць плыў начэй навобмацак, без зорак,
Берагавым агням не паглядзеўшы ў твар.

Салодкая на смак, як дзецям кіслы яблык,
Сціраючы сляды ванітаў і віна,
Зялёная вада так вымыла караблік,
Што больш ні якара не меў я, ні стырна.

Мяне кармілі з рук гекзаметрамі хвалі,
Я піў зяленіва і зорны сырадой,
Я цытаваў прыбой, з якога выплывалі
Тапельцы сумныя, што мрояць пад вадой, —

Дзе сатанее сінь і згуба проста поруч,
Дзе новы дзень святлом сцішае прагны вір,
Дзе пенаю рудой кахання бродзіць горыч —
Мацней за алкаголь, грамчэй ад вашых лір!

Я ўбачыў небасхіл з маланкамі ў глыбінях,
Віхуры, плыні, смерч і рыфы ў бурунах,
Світанак, што ляцеў на крылах галубіных,
І тое, што жывым не мроілася ў снах!

Я ўбачыў, як трымціць спалоханае сонца,
Згушчаючы ваду ў цёмна-ліловы жах, —
І мора ўсё хутчэй круціла хвалі ў гонцы,
Як старажытны мім, стаяла на вушах!

Мне снілася, як я цалую мора ў вочы;
Я сніў, як чорны змрок бялюткім снегам спеў;
Я сніў магутны рух на дне зялёнай ночы,
Лятучых фосфараў блакітна-жоўты спеў!

Чакаў, пакуль валы істэрыя накрые,
І біўся дзень пры дні ў іх дзікай чарадзе.

Хто ведаў, што пазней да ног святой Марыі
Пыхлівы акіян пакорна прыпадзе?

Я абадраў барты аб дзіўныя Фларыды:
Там у вачах пантэр палае ноч без сну;
Вясёлкі ззяюць так, што слепнуць краявіды,
І кожная — аброць марскому табуну!

Я паўз балоты плыў, дзе ў велізарнай вершы
Смярдзіць Левіяфан, па вушы ў трыснягу,
Дзе ў абсалютны штыль вада гніе, памершы.
Я вадаспад любы вам апісаць магу,

Спакой ледавікоў і мора ў лютым гневе,
Затокі цьмяныя і вусцішную мель,
Дзе змеі гідкія на пакручастым дрэве
Вісяць, пажэртыя клапамі наўсуцэль.

Я дзецям паказаць хацеў бы, як дарады
Зіхцелі золатам, на хвалях пеючы,
Як чулыя вятры давалі мне парады,
Як пена квецені свяцілася ўначы.

Пакутны акіян то трызніў ад гайданкі,
То ціха жаліўся, мяняючы настрой, —
І ліплі да бартоў саргасы, як каханкі,
Я ж кленчыў і драмаў кабетаю старой...

Амаль што востраў, я цягнуў базар птушыны,
Іх бойкі і памёт, іх сумятню і тлум;
І ракам да мяне праз лееры і ліны
Тапелец запаўзаў — і клаўся спаць у трум.

Праз лабірынты бухт знаходзіў я фарватар,
Лунаў над птушкамі, як найвышэйшы князь...

Ганзейскі карабель і браняносны катар
Не возьмуць на буксір мой корпус, п’яны ў гразь!

Дыміўся ў тумано ў ліловай апранасе,
Дзіравіў, як сцяну, ружовы небакрай
І пачастункі нёс паэтам на Парнасе —
Блакіту смаркачы і сонечны лішай.

Ганяў марскіх канькоў і электрычных скатаў,
Шалёнай дошкаю даваў нырца згары,
А ліпень малаціў дубінай, як сто катаў,
Ультрамарын нябёс збіваючы ў віры!

Я, што сінечу ткаў, мінаючы патопы,
Мальстрэма стрэмны юр і Бегемота гон, —
Я раптам затужыў па берагах Еўропы,
Па гаванях старых, дзе не прыму я скон!

Я ўбачыў зорныя архіпелагі. Выспаў —
Без ліку. Караблю — адкрыты небасхіл.
Ці ў гэтай вышыні ты выспаўся і выспеў,
Залатакрылы ўздым Неперрамажных Сіл?

Я выплакаўся ўшчэнт! Я трызню штосвітання.
Мне месяц шле праклён. Мне сонца не відно.
Мне высмактала кроў атрутнае каханне.
Няхай трашчыць мой кіль! Няхай пайду на дно!

Калі Еўропа ўсё ж — хай будзе вечаровы
Зацішак травеньскі і ўбачаны здалёк
Хлапчук над ручаём, і першы папяровы
Караблік затрымціць, як лёгкі матылёк...

Бо не магу я больш ангельскую тканіну
Вазіць для гандляроў, вітаючы здаля
Пыхлівыя сцягі, і чуць пагляды ў спіну
Плывучае турмы — былога карабля!

*Гіём Апалінэр*

## Мост Мірабо

Пад мостам Мірабо сплывае Сена
Й каханне наша
Памятай на змену
Тузе прыходзіць радасць несумненна

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

Рука ў руцэ стаім мы ў хваляванні
Пакуль пад мостам
Нашых рук дазвання
Мінулага знікае люстраванне

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

Мілосць мінае хуткаю вадою
Жыццё ідзе
Маруднаю хадою
Адно надзеям дужацца з бядою

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

Гады і дні сыходзяць вокамгненна
Мілосці не вярнуць
Адно нязменна
Пад мостам Мірабо сплывае Сена

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

## Познацвет

Луг увосень атручаны хоць сакавіты
Труціць статкі патроху
Мурог ядавіты
Там цвіце нібы цені ля вашых вачэй
Познацвет толькі вочы красуюць ярчэй
Іх да кветак ліловых падобныя промні
Гэтай восенню труцяць патроху жыццё мне

Выбягаюць са школы хлапцы-крыкуны
Пасляшаюць на луг пад гармонік губны
Каб ірваць познацветы з дзіцячым шаленствам
Што павек будуць вашых павек падабенствам
Трапяткіх як пялёсткі на золкім вятры

Пастуховая песня лунае ўгары
І брыдуць па красоўнай атруце чароды
Пакідаючы восеньскі луг назаўсёды

## Хворая восень

Мая любая хворая восень памрэ
Калі віхар задзьме на дварэ
Калі снег упадзе на сады
Назаўжды

Бедная восень
Памры ў беліні і раскошы
Спелых пладоў і заснежаных ружаў
Высока ў нябёсах
Ястрабы кружаць

Зялёнавалосых русалак чакаюць з’яўлення
Наіўных малютак ніколі нікім не каханых

Трубяць алені
Удалечыні на палянах

Як мне даспадобы о восень усе твае спевы
Плады несабраныя вецер зрывае цішком
І плачуць няўцешныя дрэвы
Раняючы слёзы лісток за лістком

Лісцё
Пад нагамі канае
Цягнік
Разгон пачынае
Жыццё
Праміна

## Бывай

Я зламаў гэты верас у полі
Наша восень памерла ў журбе
Нам ужо не сустрэцца ніколі
Водар часу верас у полі

Толькі знай я чакаю цябе

## Верш прачытаны на вяселлі Андрэ Сальмона
*13 ліпеня 1909*

Сёння зранку пабачыўшы мора сцягоў я сабе
не сказаў
Што маўляў вось багатыя строі для бедных
Што ханжа-дэмакратыя хоча пакуты схаваць
Што шануючы вольнасць цяпер пераймацьмем
лістоту
О свабода раслінаў апошняя ў свеце свабода
Што палаюць дамы бо не вернуцца тыя што іх
пакідаюць
Што махаюць нам рукі якім заўтра зноўку на нас
працаваць
Ні аб тым што павесілі тых небаракаў якія
не ўмелі з жыцця
карыстацца
Ні аб тым што нанова штурмуюць Бастылію
прагнучы свет абнавіць
Бо адно на падмурку паэзіі будзе абноўлены ён
І Парыж апранае сцягі бо мой жэніцца сябар
Андрэ Сальмон

Мы сустрэліся ў брыдкай піўніцы
Абодва былі маладзёны
Абодва палілі насілі старызну чакалі світанку
Любілі любілі адны й тыя самыя словы чый сэнс
было трэба змяніць
І трапілі трапілі ў зман ашуканыя дзеці
што болей не ўмелі смяяцца
Дзве шклянкі на століку нам падаваліся
перадсмяротным паглядам Арфея

Упалі й разбіліся шклянкі
І мы навучыліся смеху
І мы рушылі ўдалеч шукальнікі страт пілігрымы
ягомасці
Згубы па вулках па местах чужыны й сцяжынах
свядомасці
Я сустрэў яго зноў над ракой дзе між белых
лілей
Белай кветкай сплывае Афелія ў шатах юнацтва
Ён на флейце іграў тагасветную песню вар'яцтва
І з гурмою засмучаных Гамлетаў крочыў далей
Потым вечнай раскошаю ён суцяшаў паміраючага
мужыка
Зачараваны снегам які нагадаў яму голае цела
жанчыны
І я бачыў як робіць ён тое і гэтае ў гонар тых
колішніх слоў
Што змяняюць дзіцячыя твары і я наўздагон
Успамінам пяю наша Заўтра бо сёння мой
жэніцца сябар
Андрэ Сальмон

Дык усцешымся але зусім не таму
што сяброўства было нам
ракой жыццядайнай
Урадлівай вільготнай зямлёй што дае нам надзею
на хлеб
Ні таму што ізноў нашы шклянкі вітаюць нас
перадсмяротным паглядам Арфея
Ні таму што мы выраслі так што цяпер шмат хто
блытае нашыя вочы і зоры
Ні таму што лунаюць сцягі ля вакон абываталяў
нашых якія гатовыя

Абараняць болей чым стагадовае
права на кожную дробязь жыцця
Ні таму што паэзія ўладу дала нам над словамі
што разбураюць
і зноў утвараюць наш свет
Ні таму што мы плакаць умеем і смешнымі
не выглядаць
Ні таму што мы можам смяяцца што палім і п’ем
як калісьці
Будзьма радавацца бо ўладарка агню і паэтаў
Каралева Мілосць што сусвету дыктуе закон
І святлом прасякае прастору між зор і планетаў
Загадала і сёння мой жэніцца сябар
Андрэ Сальмон

*Сэн-Жон Пэрс*

# Паэма для Чужынкі

## I

Ані ржэўнікі, ані пяскі не прывабяць ступаў наступных стагоддзяў, што табе выбрукоўвалі вуліцу каменем забыцця — о, зялёны бязлітасны камень,

зелянейшы за кроў Кастыліі, што стукае табе ў скроні, Чужынка!

Ад пагодлівай вечнасці вушы закладвае цішы, а драўляная хата, на якары па-над прадоннем, выношвае ў поўдзень плады цёплых лямпаў,

каб хутка праклюнуўся вывадак новых пакутаў.

Ды старыя, старыя трамваі, што пэўнага вечара зніклі за рогам, што збеглі ў краіну Атлантаў па рэйках, шашах і прасёлках,

па купалах абсерваторый, зарослых саргасамі,

па кварталах, якія віруюць жыццём, заапарках, наводненых цыркачамі, кварталах з мурынамі ды азіятамі, што мітусяцца, нібыта малькі, праз зялёныя гожыя пляцы, залітыя сонцам і круглыя, быццам атолы

(дзе калісь спынілася лагерам кавалерыя федэратаў, о, конікаў морскіх тысячагаловае войска!),

апяваючы Учорашні дзень, апяваючы вабнае Дзесьці, пяялі і боль нараджэння свайго, і ў дзвюх

нотах дразда-перасмешніка — юнае Лета, сталіцу ў аблозе цыкадаў... І побач з тваімі дзвярыма — пакінутыя для Чужынкі —

дзве рэйкі — адкуль яны? — рэйкі, якія яшчэ не сказалі апошняга слова.

*

«Вуліца Жы-лё-Кёр... Вуліца Жы-лё-Кёр», — ціха-ціха пад лямпай спявае Выгнанніца з памылковай вымовай Чужынкі.

## II

«...Гэта не слёзы — няўжо ты паверыла? — не, гэта боль у вачах, што задоўга глядзелі на лёзы мячоў, гартаваных ва ўсіх горнах свету

(о, шабля Строгава на вышыні нашых веек!),

ці стрэмка пад скураю, шып маладога цярноўніку ў сэрцы жанчын маёй расы; або, прызнаюся, празмернасць удовіных доўгіх цыгар, што да золку палю ў атачэнні запаленых лямпаў,

у шуме вялікіх паводак, якімі напоўніліся ночы Новага Свету.

...О ты, што спяваеш — бо твой гэта спеў — пра выгнаннікаў гэтага свету, ці ты не спяеш суцяшальную песню мне, песню тугі, калыханку засмучаных лямпаў,

вяснянку надзеі й світанку, чарнейшага ў сэрцы алтэі?

Як шмат на зямлі мы пабачылі гвалту... О вы, мужы Францыі, ці вы дасце мне пачуць пры жыцці

сярод крыкаў стрыжоў і званоў урсулінак, як над залатою саломай і прахам манархаў

смех прачак лунае ў старых брукаваных завулках?

І не кажы мне пра птушку, якае спявае на даху, прыбраная ў пурпур, пякнейшы за строй кардынала. І не кажы пра вавёрку — ты бачыш яе — на верандзе, пра хлопчыка з пачкам газетаў, манашак — збіральніцаў ахвяраванняў, малочніка. Не гавары, што высока пад хмарамі

пара арлоў ад учора чаруе ўвесь горад суладнасцю велічных рухаў.

Ці ўсё гэта можа быць праўдай, не маючы сэнсу і сувязі, меры і паўзаў, мне падаючыся няясным, няважным, бязважкім у лёгкіх жаноцкіх руках маіх, бы ключ Еўропы ў плямах крыві?.. Ах, ці ўсё гэта можа быць праўдаю?.. (Хоць на парогу маім ерэтычныя гімны спявае

зялёна-брунатная птушка, якая завецца тут Starling)».

*

«Вуліца Жы-лё-Кёр... Вуліца Жы-лё-Кёр», — ціха-ціха пяюць на выгнанні званы з памылковай вымовай чужынцаў.

### III

Блізкіх, крывавых багоў маляваныя строгія твары! У аранжарэі пад лямпамі ў поўдзень саспела вялікая бездань. Прыліў падбіраецца да аканіцаў замкнёных, і лета, на схіл ідучы, падымае катвігі

і плыве да вітражных апсідаў — вялізарных руж раўнадзенства.

Ужо трэці год як на брук тваіх вуліцаў падаюць ягады тута — і плямы старога віна чырванеюць, як сэрца алтэі ці грудзі дачок Элаа. І ўжо трэці год ля замкнёных дзвярэй тваіх,
нібы сівіла ў гняздзе, выгадоўвае бездань цудоўных сваіх светлякоў!

У леце зялёным, як пустка, у леце, зялёным смарагдаваю зелянінаю, што за шалёны світанак з п'янкой апантанасцю крылы разгортвае, як саранча? Ужо хутка высокі сінкліт вераснёвых вятроў будзе весці нараду пры брамах у горад і па-над саванамі аэрадромаў, а з падыходам нястрымнай вады
горад верне плыні ўраджай мёртвых конікаў гэтага лета.

...І заўжды гэты грукат шкляны, і чаканне напружанае. І заўжды гэты плёскат высокай вады. І часамі ў нядзелю па трубах у дом з атлантычных упадзін, спрадвечны, бы іншага свету павеў,
падымаецца водар прадоння, нябыту й зямной парахні...

Паэма для чужынкі! Паэма для эмігранткі!.. Прыбранай у крэп з аксамітнікам, пры незачыненых куфрах! О ты, вялікая сэрцам і крыкам жанчын тваёй расы!.. Еўропа сцякае тваёю крывёю, нібы Найчысцейшая Дзева Карыды. За шклом еўрапейскіх вітрынаў палаюць на сонцы твае залатыя сабо

і сем пазалочаных срэбных мячоў Божай Маці Трывогі.

Капліцы бацькоў вашых вершнікі апанавалі, спіжовыя нюхаюць зоры на кратах алтарных. І дзіды высокія Брэды вартуюць фамільныя склепы. Ды шмат найшляхетнейшых сэрцаў ужо змізарнела. І шчасця карцінкі над вашай занадта блакітнай затокай

глядзяцца не лепей за пальмавую залатую галіну на сподзе цыгарнае скрыні.

Блізкіх, будзённых багоў падарунак, якую жалезную ружу нам выкуюць заўтра? За намі ляціць наўздагон перасмешнік! Няма навіны ў тым, што Свет наш Стары на стагоддзях чырвоным пылком асядае... Нам часта яшчэ прыбірацца ў жалобу пад лямпамі ў поўдзень, б'ючы ў барабаны, пра ўчорашні дзень пеючы і пра вабнае Дзесьці, пра боль нараджэння свайго

і раскошу жыцця, што самохаць ідзе на выгнанне і сёлета нам пакідае адно чалавечыя страты.

Але гэтым вечарам доўгіх гадоў і вялікай пакуты, у леце, цяжкім, нібы чмур апіятаў, гусцейшым ад рыбінага малака, я, самотнік, каб вызваліць з цемры твае незлічоныя лямпы, іду праз высокі квартал таварыства сляпых, паўз фантаны, спавітыя саванам, шэрагі клетак, прызначаных для мерцвякоў, міма кратаў, газонаў, праз італьянскія паркі,

якія аднойчы пакінулі гаспадары, напужаныя пахам магілаў,

сыходжу, о памяць мая, крокам вольных людзей, крокам тых, што без роду без племені, у скавытанні пяскоў; мой аголены лоб зіхаткая вянчае пчала; я іду пад агромністым небам, зялёна-сталёвым, як дно акіяна; іду, заклікаючы свістам народ свой — сівіл, недаверкаў; калі ж засынаю, са столькіх нябачных істотаў рука абірае

і белага гладзіць сабаку ўначы, еўрапейца, што больш за мяне быў паэтам.

*

«Вуліца Жы-ле-кёр... Вуліца Жы-ле-кёр...» — ціха-ціха пяе анёл Товіі з памылковай вымовай Чужынца.

*Марыс Карэм*

* * *

У вопратцы зроку і слыху
Я дрэва ўсякаму птаху,
Я грудзі ўсякаму дыху,
Я сцены ўсякаму даху —
Аж страшна зняць апранаху.

## Згубленыя птушкі

Сваіх птушак падлічвае ранак,
І нястача кожнага ранку:

Зноў згубіў чатырох канаплянак,
Трох галубак і берасцянку.

Так высока лёталі поначы,
Усяго, што ўнізе, не помнячы,

Што на досвітку ўжо не знайшлі
Ані знаку нашай зямлі.

Каб жа знічка, што ў небе цвіце,
Іх прынесла на зорным хвасце

І вярнула ў прызначаны час,
Калі птушкі спяваюць для нас!

## Чырвоны Каптурок

Гаворадь, зноў пайшла кудысьці
Яна ў чырвоным каптурку,
Ды болей між густога лісця
Не пільнаваць яе ваўку.

Ніхто з дзяўчынкай гаваркою
Больш не парушыць этыкет,
Калі дрыготкаю рукою
Яна аддасць яму букет.

Нашто бабуляй апранацца?
Яна цяпер у шпіталі:
Адно падчас галюцынацый
Убачыць родныя палі.

Чырвоны Каптурок у скрусе
Ўздыхае, гледзячы праз шкло,
Аб кветках, мятліках, спакусе...
Няма таго, што раньш было.

## Стары вакзал

Запальваюцца ліхтары,
Спявае зяблік уверсе,
І зябне вакзал стары,
Такі самотны ў верасні.

Ад светлых шыбаў наводшыбе,
Не лезе людзям на вочы, бы
Глядзіць, уздыхаючы горка,
Як над старою ліпаю

Вечаровая зорка
Ціхенька ў небе ўсхліпвае.

Зрэдчасу падарожны
Спыніцца позняй пары,
Але праз стому не кожны
Разгледзіць яго ліхтары,
Пачуе зябліка песню
Ці зорку, што плача ўверсе,
Такая самотная ў верасні.

І гарадскія вятры
Пагоняць бадзягу ў двары,
Нібы апалае лісце.
І будзе вакзал стары
Самотнейшы, чым калісьці.

## Свабода

Нямнога сонца
Вазьмі ў далоні
І руш бясконца
Ў яго палоне.

Ля павароткі
Чакае хтосьці:
Хутчэй — кароткі
Век маладосці!

Ты зведай пешкі
Шляхі-сцяжыны,
Людскія сцежкі
І шлях птушыны!

Забудзь старое,
Што ззаду кінеш,
Бо вабіць мроя,
Якой не спыніш.

Заўжды ў дарогу,
Ўвесь свет — на мэце,
Каб мець... нічога
І ўсё на свеце.

## Я ведаю, што смерць...

Я ведаю, што смерць не возьме пад крыло
Далёка ад цябе, майго кахання й скрухі;
І як бы вусцішна табе з ёй ні было —
Твой голас будзе мець, узяўшы мяне ў рукі.

Пачуеш сэрца стук: маё ў адказ твайму,
Нібыта водпаведзь на ціхі голас кроўны,
Удзячнае яму — ужо адно таму,
Што цэлы свет гудзе ў хадзе яго няроўнай.

І ўбачу я ў вачах, што небам мне былі,
Апошняе, што тут зрабіць мне засталося:
На цёплым схіле дня вярнуцца да зямлі,
Як сонечным святлом цяжарнае калоссе.

## Шэрае або чорнае

Ён развязвае свой гальштук:
трохі зашэры, крыху зачорны.
Ён вандруе: чатыры метры
ад сябе да сябе і назад.
Ён стаміўся глядзець на дахі
й лічыць аблокі.
Высілкі, час, пачуцці —
усё падазронае.
Ці напіша ён да сяброў,
якіх не жадае бачыць?
Ён свой дзень канчае да снедання,
а папоўдні будуць арэлі
паміж смерцю, якой ён баіцца,
і смерцю, якой ён прагне.
Перад сном, адклаўшы газету,
ён скажа жонцы:
«На вайне мы былі б, прынамсі,
вольныя — ад сябе».

## Прысутнасць бяздзейнай асобы

Хіба ж я не байка нябыту?
Знудзіўшыся пэўнага дня,
ён пачаў сябе показкай цешыць:
прыдумаў мяне, як капрыз,
мудрагелісты і бескарысны
складнік шалёнага свету.

Ды жарты жывуць
не даўжэй за гайданне арэляў
або красаванне шыпшыны ва ўладзе вятрыскі.
Нябыт зноў зрабіўся надзвычай сур'ёзным.
Руплівец, хіба ж ён стрывае
прысутнасць
бяздзейнай асобы, мяне?
Хібá ж я не хíба нябыту?

## Адрачэнне

Пакідаю свой дом,
што зрабіўся вязніцай блакіту.
Пакідаю сваю суджаніцу:
яна вартая лепшага мужа.
Выракаюся ўсіх сваіх кнігаў:
чытайце меней блюзнерскія творы.
На траве засталіся
мае ногі —
правая, левая:
каму яны будуць служыць?
Ручаю ахвярую свой чэрап:
мне ён без патрэбы.
Мяне ўжо няма.
Засталася адно мая памяць,
што рыпіць, нібы дзверы,
якія забылі замкнуць.

*Серж Гензбур*

## Каталажка

Раз паэт патлаты загрымеў за краты,
і без вас, дзяўчаты, ён сумуе тут:
запяе ціхутка, і заплача ў смутку
можа, прастытутка, можа, прастытут.

Не стрымаўшы енку, напужаў паненку:
хтось яму ў засценку даў не той напой,
і такая сіла ў сэрцы забрадзіла,
што паэт-мудзіла стаў самім сабой.

Хліпкі з маладосці — скура, хрэн ды косці,
ён чакае ў госці дзевак і кабет,
кожнай Дульсінеі кажа ахінею
і не чырванее, грэбаны паэт!

Цяжка жыць паэту, ён шукаў Джульету,
а трапляў на гэту... тоўстую Марго.
Як кішэнны злодзей, лез у царства плоці
і заўжды знаходзіў скарбаў — ого-го!

З раніцы ў вязніцы лепшае прысніцца,
прылятай, сястрыца, птушкай залатой:
будзем снедаць, пташкі, без аўсянай кашкі,
хлебам з каталажкі, горкаю вадой.

Скаргаю дарэмнай з камеры турэмнай,
гэтай песняй стрэмнай не паможаш тут,
ды пяе ціхутка — і рыдае ў смутку
можа, прастытутка, можа, прастытут.

## Старая каналья

Калі ты нарэшце памрэш,
старая каналья?
Калі ўсім на радасць памрэш,
старая каналья?
Паслухай, здохні хутчэй —
і дыхаць стане лягчэй!
Калі табе ўжо капут,
стары вярблюд?

Я сам прывёў цябе ў дом,
старая каналья.
А ты ў ім зладзіў садом,
старая каналья.
Спаліў мае дываны,
мае абгадзіў штаны
і п’яны валяешся тут,
стары вярблюд!

Я жонку знаёміў з табой,
старая каналья.
Сам жонку знаёміў з табой,
старая каналья.
Ты вока паклаў на яе,
шаптаў ёй жарты свае
і лапаў, цягнучы ў кут,
стары вярблюд.

Ты з ёй дабіўся свайго,
старая каналья.
А-ёй, дабіўся свайго,
старая каналья.
Яна: «Які ён вялізны!»

А ты парваў шмат бялізны
й газету з курсам валют,
стары вярблюд!

І тут я выцягваю ствол,
старая каналья.
Я свой выцягваю ствол,
старая каналья.
Сабе скамандую «плі!»,
і ты — купа мяса, калі
ў цябе разраджу рэвальвер,
стары хер!

Цябе пакладуць у труну,
старая каналья.
А я тым часам гульну,
старая каналья.
Змяшаю віно і каньяк,
бо сёння іначай ніяк,
бо здох-такі — здарыўся цуд! —
стары вярблюд.

## Анахраніст

Ён анахраніст,
раздзяўбай і пафігіст,
кажа ўсім: «А на храна?
На храна?»
Ён анахраніст,
недарэчны гітарыст
без струны. «А на храна
вам струна?»

Ён анахраніст,
аптымальны песіміст,
бо мазгоў у пацана
да храна.
Ён анахраніст,
ні халеры не рабліст,
бо рабоце — грош цана,
на храна?

Ён анахраніст,
ў кожнай бочцы банны ліст,
чорт у рэбрах, хоць відна
сівізна.
І анахраніст
з малалеткай танчыць твіст,
кружыць голаў дапазна
ім вясна.

Ён анахраніст,
праваслаўны атэіст,
прычасціўся, бо віна —
пі да дна!
Ён анахраніст,
бо не трэба акуліст,
каб убачыць, што лайна
да храна!

Ён анахраніст,
пальцы ў рот, вясёлы свіст,
а сур’ёзнаму — вайна!
На храна?
Так, ён анахраніст,
бо і лёс наш — гумарыст:

тут жывеш, а там — труна,
на храна?

Ён анахраніст,
усе любяць, бо артыст,
а каторая адна —
ні храна!
Але анахраніст
піша верш ёй, нібы ліст,
а любы, хто не яна, —
пойдзе на...

## Тапеліца

Ты плывеш туды, дзе згадкі
паміраюць пакрысе.
Я лячу ва ўсе лапаткі
за табой па беразе.
Ты плывеш туды, дзе сонца
патанае між лілей.
Я губляю сілы ў гонцы,
толькі ты — усё далей.

То трымаешся паверхні,
то затоішся на дне,
то чакаеш, ці паверне
гэта плыня да мяне;
то хаваеш твар у хвалі,
каб разлука і ручай
ад мяне навек схавалі
слёзы, сорам і адчай.

Хто ты? Рыба? Шлюпка? Шлюшка,
поўная чужой вады?
Што ж я, верны, вечны служка,
за табой паўсюль, заўжды?
Памяць сохне ў паняверцы,
слёзы сохнуць на шчацэ.
Тонуць разам нашы сэрцы,
кожнае ў сваёй рацэ.

## Музыка з Явы

Нібы́
святло,
што раньш было,
да мяне,
цячэ
ўва мне,
хоць вам і не
да мяне, —

з мроі ці з явы,
танец пад музыку з Явы:
я, вы, ён —
шанец ці сон? шансон.

Каму
ў жыцці
кахаць вас ці
вабіць вас?
А я
здаўна
хварэю на —
мабыць, вас.

З мроі ці з явы,
танец пад музыку з Явы:
я, вы, ён —
шанец ці сон? шансон.

Здалося мне,
што не
міне
красавік.
Я быў
дзіцё,
лічыў,
жыццё —
чарнавік.

З мроі ці з явы,
танец пад музыку з Явы:
я, вы, ён —
шанец ці сон? шансон.

Вось так,
жыві
пасля
любві
на зямлі:
зрабі
ключы
і спі
ўначы...
Вы змаглі.

З мроі ці з явы,
танец пад музыку з Явы:
я, вы, ён...
Покуль гучыць шансон.

# З АНГЕЛЬСКАЙ МОВЫ

***Джон Дон***

## Жаночая вернасць

Мяне кахаеш цэлыя паўдня!
А што, як заўтра — здрада і хлусня?
Што скажаш мне? Што верная, таму
Што здрадзіла пакуль мне аднаму?
Што мы былі не тыя, як цяпер,
Калі давалі клятвы напавер?
Што вернае каханне — люты звер?
Што толькі смерць разлучыць (але сон —
Як скон, бо смерць падобная да сну),
І ўся любоў памрэ за ноч адну?
Што здрада і мана жывуць спакон
Вякоў, таму няма тваёй віны:
Мы ўсе — ахвяры здрады і маны?
Але ці стану дакараць дарма,
Бо пэўнасці няма
Ў пытаннях вернасці і здрады:
Мо заўтра сам я здрадзіць буду рады?

## Блыха

Зірні, у гэтай скочкі на сцяне
Ёсць тое, ў чым адмовіла ты мне!
Піла з мяне, а потым, уяві,

Пакаштавала і тваёй крыві,
Замест адной напіўшыся дзвюма.
Але кровазмяшэння тут няма,
    Ні ганьбы, ні распусты, ні граху:
    Кроў, што не дасталася жаніху,
    Насыціла маленькую блыху.

Спыніся, неразумнае дзіця,
Не абрывай майго — твайго! — жыцця,
Бо гэтая блыха ёсць я і ты,
І нашае любові храм святы,
І ложак, дзе тваім бацькам на злосць
Спачылі мы і нашая мілосць.
    Мы — болей чым сям'я: загіну я,
    І самагубствам будзе смерць твая.
    Забойства — грэх, а ў храме — утрая!

Бязлітасная! Выбухнуў твой гнеў,
Пазногаць ад крыві пачырванеў.
У чым яе злачынства, апрача
Крыху крыві з каханага пляча?
Ты кажаш, каб не браў да галавы,
Бо кожны з нас здаровы і жывы.
    А я дык знемагаю пакрысе,
    І мой імпэт бяды не прынясе:
    Не больш, чым кроў, змяшаная ў блысе!

## Ідучы ў ложак

Хутчэй да справы, госця дарагая!
Без працы, як ад стомы, знемагаю —
Нібы ваяр, што не ўступае ў бой,
Хоць бачыць ворага перад сабой.

Скінь гэты пас, зіхоткі, як сузор’е,
Штоззяе незалежна ад надвор’я.
Пасля нагруднік. Так яму, здымі,
Бо любавацца не дае грудзьмі!
А потым расшнуруйся — на дарожку,
Якая проста прывядзе да ложку.
А вось і чорнай зайздрасці прадмет —
Бо я яму зайздрошчу! — твой гарсэт.
Паўзе сукенка з плеч — спаўзае гэтак
Цень ад пагорка з лугавіны кветак.
Здымі вянец, каб не хаваў красы:
Твая карона — самі валасы.
Скінь туфлікі хутчэй, бо толькі босы
Ступае на любоўныя нябёсы.
Нібы анёл, што ў беліні адзеж
Сыходзіць да людзей, у Рай вядзеш,
Што мусульманам дадзены па смерці.
Гавораць, носяць белае і чэрці,
Ды вусцішы няма — зірні сама:
Не валасы, а плоць стаіць тарчма...
Рукамі вандраваць прашу дазволу
Паміж, і за, і перад, і наўкола.
Мой вечны скарб, імперыя мая,
Краіна, дзе ўладар адзіны — я,
Дзяржава, дзе пакліканы ў цары я,
Амерыка — і я цябе адкрыю.
Мне твой палон — свабода на вякі,
Кладу пячатку дотыкам рукі.
Аголенаю будзь! Хіба ж надзела
Душа твая апратку? Так і цела.
У дыяментах з ног да галавы,
Як Аталанта з яблыкамі, — вы
Падманваеце нас усім, што звонку.

Ды толькі дурні любяць абалонку.
Ці ж рамай зачароўвае абраз?
Так і жанчыны спакушаюць нас
Тым, што глыбей, і толькі дылетанты
На вокладку мяняюць фаліянты.
Хутчэй адкрыйся мне, як чытачу;
Як павітуха, знаць цябе хачу!
Скінь белую кашулю, строй астатні,
Адно нявіннасць не хавай у шатні,
Бо я раздзеўся для цябе адной...
Саромеешся — то накрыйся мной.

## Мой рахунак

З учорашняга дня я дваццаць год
Не мог у твой паверыць адыход.
Год сорак трызніў той, якой няма,
І сорак верыў: вернешся. Дарма.
У плачы сотня год, ва ўздыхах — дзве,
І тысячу — ні думкі ў галаве,
Апроч як пра цябе, ды пакрысе
Праз тысячу забыў я іх усе.
А боль і пасля смерці не патух.
Я мёртвы й несмяротны: помніць дух.

## Развітанне, што забараняе тугу

Як праведнік сваёй пары
Шапне душы: «Ляці дадому!»,
І завагаюцца сябры:
Жывы ці мёртвы — невядома,

Так мы, расстаўшыся без слёз,
    Мілосці не атруцім смуткам:
Ці ж аддамо супольны лёс
    На ганьбаванне брудным чуткам?

Калі хістаецца зямля,
    Трасуцца з жаху малаверы,
Ды не палохае здаля
    Нябачны зрух нябеснай сферы.

Зямных любоўнікаў трасе
    Ад страху змарнаваць каханне,
Бо іх пачуцці пакрысе
    Разлука вынішчыць дазвання.

А мы з табой кахаем так,
    Што душы праз гады разлукі
Мацнейшыя за вуснаў смак
    І прагныя любошчаў рукі.

Бо нашых душаў больш не дзве,
    А злітак золата адзіны,
Якога ўдар не разарве,
    А толькі вытанчыць пласціну.

Як ножкі цыркуля, мы круг
    З табою крэслім, дарагая,
І хоць адна на месцы, рух
    Няўзнак ёй надае другая.

Адна ў сярэдзіне знарок,
    Але схілілася ў чаканні,
Каб чуць тае, далёкай, крок
    І выпрастацца на спатканні.

Будзь мне апораю ў хадзе,
Каб на кругах не схібіў квола,
І шлях зваротны прывядзе
Туды, дзе пачынаў я кола.

*Эдгар Алан По*

# Крумкач

Неяк поўначчу панылай я сядзеў, як над магілай,
Над пісьмёнамі, расклаўшы старажытны стос
папер.
Раптам ціхі стук у дзверы мае змрочнае кватэры
Разагнаў усе хімеры. «Мабыць, нейкі візітэр, —
Я падумаў, — не хвалюйся, проста позні візітэр
Ля дзвярэй тваіх, павер».

Тая снежаньская замець назаўжды запала
ў памяць.
Цень на сценах, і не сцяміць — прывід?
таямнічы звер?
І няма палёгкі ў горы — вечным смутку
па Леноры,
Што цяпер зіхціць, як зоры, з вышыні нябесных
сфер,
Але ў нашым грэшным свеце, дзе не бачна
райскіх сфер,
Безназоўная цяпер.

Шоргат, шолахі і рухі, і душа ў палоне скрухі
Сочыць цені — у трымценні фіялетавых парцьер,
І кажу, пакуль у змозе, паўтараючы ў трывозе:
«Гэта проста на парозе нейкі позні візітэр,
Проста грукаецца ў дзверы і чакае візітэр,
Так, душа мая, павер!»

І, пагнаўшы прэч апаску, па гасцінным абавязку
Я прамовіў: «Калі ласка! Выбачайце мне, о сэр
Або лэдзі! Я, нябога, стуку не пачуў слабога...»

Адчыніў, а там — нікога, нібы змрок усё пажэр.
Дзверы адчыніў — нікога, нібы змрок усё пажэр.
Змрок, што на душы цяпер.

Я глядзеў у твар цямрэчы й бачыў там такія
рэчы,
Нібы просячы сустрэчы ў найгарчэйшае з хімер.
Ды ні гуку і ні зыку, быццам Бог забраў музыку,
Кінуўшы, нібы ў пазыку, тры галосныя ў этэр —
Рэха імені Ленора, што прамовіў я ў этэр,
Мне пакінуў напавер.

Я вярнуўся да чытання, ды спакойным быць
не ў стане,
Раптам тое ж грукатанне, ды мацнейшае цяпер:
«Хто не можа ўгаманіцца, б’ецца проста
ў аканіцу?
Разгадаем таямніцу й госця дзіўнага намер.
Гэта вецер б’ецца ў шыбу на паўночны свой
манер,
Вецер снежаньскі, павер!»

Не паспела аканіца як належыць адчыніцца,
Увайшоў Крумкач паважны, бы мінулага жаўнер,
Старадаўні князь пярнаты крочыў у мае пенаты,
Як усе арыстакраты, не пазбаўлены манер,
Зграбна сеў на бюст Палады, не губляючы манер,
Як глядач — у свой партэр.

Вось дзівосы ў мой закутак! І на хвілю сціх
мой смутак,
І спытаўся я: «Чаму так абадраны твой каўнер?
Кіпці ворагаў пасеклі? (Тых, што ўрэшце ў жаху
ўцеклі?)

Як цябе завуць у пекле, дасканалы грэнадэр?
Як цябе Плутон у пекле называе, грэнадэр?»
Адказаў Крумкач: «Не вер!»

Я застыў у захапленні ад птушынага маўлення,
Хай крылаты мой аратар быў далёка не Гамэр,
Ды не кожны дзень у госці птах заходзіць
да кагосьці,
Хай не першай маладосці, але важны кавалер!
Не заўжды на белы мармур сядзе чорны кавалер
З рэдкім іменем «Нявер»!

Госць жа, з выглядам суровым, не азваўся больш
ні словам,
Бы зрабіцца мармуровым і напраўду меў намер,
У нямоце занурыўся — і самоце я скарыўся:
«Зранку, як мае сябры ўсе, знікне й гэты візітэр,
Як усе мае надзеі, знікне й гэты візітэр!»
Паўтарыў Крумкач: «Не вер!»

Адказаў ён так дарэчна, што прамовіў я сардэчна:
«Гаспадар яго, бясспрэчна, быў пакутнік
і блюзнер!
Быў іх лёс настолькі дрэнным, што ліліся скаргі
трэнам,
І зрабіліся рэфрэнам боль і роспачы надмер,
Кожны дзень гучалі ў скаргах боль і роспачы
надмер:
«Больш не вер! не вер! не вер!»

Хваляванне больш не трэсла, хоць надзея
не ўваскрэсла.
Я бліжэй пасунуў крэсла, нібы крочыў за бар'ер
Немагчымых супадзенняў, сеў —
і доўга летуценіў:

«Што прынёс мне з царства ценяў гэты вусцішны
кур’ер?
Што прарочыць мне злавеснай вечнай вусцішы
кур’ер,
Прамаўляючы «не вер»?

Толькі змучаны спачынам, скуты страхам
беспрычынным,
Я сядзеў пад крумкачыным позіркам,
што пёк і жэр.
Бо душа ўсё памятае: тут раней сядзела тая,
Што цяпер не завітае з вышыні нябесных сфер,
Не прысядзе, завітаўшы з вышыні нябесных
сфер,
Тут каханая, не вер!

Раптам у салодкім дыме пахі робяцца густымі,
Цені робяцца святымі і сыходзяць са шпалер...
Я сказаў: «У падарунак шле мне Госпад
паратунак,
Забыцця гаючы трунак — мне, што звыш усякіх
мер
Пра нябесную Ленору памятае дацяпер!»
Адказаў Крумкач: «Не вер!»

«Будзь ты д’яблам ці прарокам, ці з’явіўся
ненарокам,
Ды катуеш сэрца змрокам, быццам тысячы сякер!
Ці ў тваёй, крумкач, уладзе загаіць душы
бязладдзе,
Ці мне лекі ў Галаадзе дасць твой сябра
Люцыфер?
Ці бальзам у Галаадзе дасць мне чорны
Люцыфер?»
Адказаў Крумкач: «Не вер!»

«Будзь ты д’яблам ці прарокам, ці з’явіўся
ненарокам,
Дзеля Бога на высокім троне тагасветных сфер,
Адкажы душы ў спагадзе, ці сустрэне ў райскім
садзе
Тую, у чыім паглядзе — толькі неба? Не блюзнер,
Ці сустрэнемся з Ленорай?
Дзеля неба, не блюзнер!»
Адказаў Крумкач: «Не вер!»

«Праз цябе гаворыць бездань, значыць —
згінуць і табе, здань!
Прэч у цемру да пачвараў, вурдалакаў і мегер!
Хай не плямяць твае пёры светлай памяці
Леноры,
Згінь туды, дзе змрок, і зморы, й пекла вогненны
ашчэр!
Веру, што цябе чакае пекла вогненны ашчэр!»
Адказаў Крумкач: «Не вер!»

Так трываю страх і вусціш я ля мармуру,
на бюсце ж —
Госць, якога не адпусціш, бо ўладарыць *ён* цяпер:
Беручы душу ў аблогу, кінуў цень
на ўсю падлогу,
І не збавіцца ад злога ценю гібельных хімер!
І душа з палону злога, з віру гібельных хімер
Больш не вернецца, не вер!

## Эльдарада

Мужны ваяр
Цераз гушчар
Зліваў, дажджу і граду
Ў зыркай брані
Мчаў на кані
Ў пошуках Эльдарада.

Ехаў штодзень,
Ехаў, аж цень
Лёг на душу, як здрада, —
Бо не знайшоў
Ў свеце краёў
Пекных, як Эльдарада.

Чуючы схіл
Колішніх сіл,
Рыцар і здані рады:
«Здань, адкажы,
Дзе рубяжы
Шчаснага Эльдарада?»

«Ценяў далінаю,
Як на зямлі
Іншай не будзе рады,
Мчы, вою, мчы,
Каб дасягчы
Любага Эльдарада!»

## *Эмілі Дыкінсан*

* * *

Мой ліст — да Свету, хоць пісьма
Свет не напіша мне.
Яго Прырода шле сама,
І ў кожнай навіне

Спагада й моц адпраўніка.
Дзеля яго рукі
І вы спагадліва мяне
Судзіце, землякі.

* * *

Турботаў у травы няшмат:
Прыбраць у зелень дол
Дзеля забавы мятлікаў
І пачастунку пчол.

Ёй навакольным кланяцца
Загадвае павеў,
На ўлонні сонейка трымаць,
На вуснах — ціхі спеў.

Ноч аздабляе перламі
Чысцюткае расы,
Каб і князёўна не магла
Зацьміць яе красы.

Памрэ — і будзе водарам,
Што нараджае сны, —

Як боскі незабыўны пах
Духмянай хваіны.

І ўрэшце знойдзе сабе схоў —
Высока, на адрыне.
Турботаў у травы няшмат.
Хто ж лёс такі адрыне?

* * *

Жыццё аддаўшы за красу,
Спачыла я ў труне.
Пакутнік ісціны ляжаў
Наўпоблізь ад мяне.

І ён пытаецца ў мяне:
«За што памерла ты?» —
«За прыгажосць». — «А я памёр
За праўду. Мы браты».

Нібы суседзі праз сцяну,
Гаворым цераз скон,
Пакуль, звязаўшы вусны, мох
Не пахаваў імён.

* * *

Ці ж неба — гэта лекар,
Што болесць адхіне?
Хіба магчыма вылечыць
Нябожчыка ў труне?

Ці ж Бог — ліхвяр? Маўляў, душой
Мы вінныя яму.
Ды ў гандлі гэтым скарбам
Я ўдзелу не вазьму.

* * *

Рэлігія — рэч карысная
Для ўсіх разважных асоб,
Ды ўсё ж у крытычных выпадках
Патрэбнейшы мікраскоп.

* * *

Вось гэта ўсё, што даць магу,
Вось гэта сэрца ў дар,
Вось гэта сэрца, і палі,
І лугавы абшар.

Каб мне чагосьці не забыць,
Пералічыце зноў:
Вось гэта сэрца, і лугі,
І ў дзятліне чмялёў.

* * *

Прамовіць ісціну лягчэй,
Калі ідзеш вакол:
Замоцны для людскіх вачэй
Раптоўнай праўды ўкол.

Маланку растлумач — і сын
Палохацца не будзе.
Хай праўда ўспыхне — спакваля,
Інакш аслепнуць людзі.

* * *

Каб луг я стварыць магла,
Патрэбныя толькі трое:
Пчала,
Канюшына і мроя.
Калі ж пчалы не стае —
Хопіць і мроі мае.

* * *

Гаворыце: «Час лечыць», —
Ды не даведзяце:
Праўдзівая пакута
Цяглiцамі расце.

Час — катаванне болем,
Сякера ў скуры дрэў.
Хто перамог хваробу,
Той проста не хварэў.

* * *

Смяротна хвораму няшмат
І трэ: вады ў збане,
Убачыць кветачкі абрыс —
Прынамсі, на сцяне;

Глядзець на шчыры жаль сяброў
І ведаць: на дварэ
Не пацямнеюць фарбы дня —
Нат калі ён памрэ.

*Уільям Батлер Ейтс*

## Хто з Фэргусам?

Хто з Фэргусам — і наўгалоп
Праз цені лесу ўсё хутчэй,
І ў скокі ля самой вады?
Дзяўчына, не хавай вачэй!
Юнак, навошта хмурыш лоб?
Забудзь пра жахі назаўжды!

Расхмар чало, не думай дум,
Чаму так горкі сэрца жар!
Вось Фэргус гоніць свой рыдван:
Ён, ценяў лесу валадар,
Яднае акіянскі шум
І зор вандроўных акіян.

## Неўтаймоўнае племя

Дзеці багіні Дану ў далоні поруч
Б’юць, смяюцца і мружаць вочы ў калысцы,
Бо каршуннё залунае, каб ім калісьці
Рушыць на Поўнач, — і сэрцы прасякне горыч.
Я да грудзей прыціскаю дзіця ў адчаі,
І з пасланцом магіл твар у твар гаворым!
Вецер самотны скуголіць над дзікім морам,
Вецер самотны ў пажары на небакраі,
Вецер самотны б’ецца ў як свет старыя
Брамы Пекла й Нябёсаў у скавытанні.
  О сэрца, табе неўтаймоўныя воі-здані
  Мілейшыя за святое імя Марыі!

## Ірландскі лётчык прадчувае сваю загубу

Канаю між зямлёй і сонцам
На прасціне з нябесных хмар.
Сябрам не стаў я абаронцам,
Не бачыў ворагаў у твар.
Я ведаю, мой суайчыннік —
Адно жабрак з Кілтартан Крос,
І смерць мая й нат іншы вынік
Ягоны не палепшаць лёс!
Ані загад, ані сумленне
Мяне зрынаюць у нябыт:
Адно ў парыве захаплення
Я занураюся ў блакіт.
Усё, пра што салодка марыў,
Прынесла наймізэрны плён.
Я паміраю паміж хмараў:
Жыццё намарна й марны скон!

## Радавыя сядзібы

*(з цыкла «Развагі падчас грамадзянскай вайны»)*

Калі жыццё красуецца ў садах
Прысадамі ў прасодыі лістоты,
Сабой запаланяе ўвесь прасцяг,
Б’е цераз край, не ведае журботы, —
Яно вядзе свой векавечны шлях
Праз заняпады й велічныя ўзлёты,

Прымаючы такі ці іншы кшталт —
Адно каб не механістычны гвалт!

Ах, мары, эфемерныя, як здані!
Але калісьці мроіў і Гамэр,
І марныя ў мінулым збудаванні
Каштоўнасцю здаюцца нам цяпер,
Чарупінаю з вірнае адхлані,
Што набывае казачны надмер
І ўвасабляе ў перлах і гагаце
Атрыманае ў спадчыну багацце.

Так найслыннейшыя валадары
Склікалі першых дойлідаў да працы,
І з іхніх крохкіх візіяў майстры
Стваралі адмысловыя палацы.
Але сканае гаспадар стары —
Адно мышам там суджана застацца.
У скрынях продкаў золата і спіж,
А спадкаемцам будзе толькі мыш.

А што, калі ўсім гэтым сувенірам:
Старым тэрасам, стодам у садах,
Дзе месца ёсць дрыядам і сатырам,
Паўлінам, бо паўлін — Юноны птах;
Дзе сцежкі ўсе пасыпаныя жвірам,
Філосафы ў альтанцы знойдуць дах,
А юнакі — памкненні, мроі, ўздыхі, —
Адзіны лёс — быць люстрам нашай пыхі?

Што, калі герб, надбрамны вартавы,
Які аздобіў колісь замак нечы;
Партрэт у галерэі радавы,
А на партрэце — вой шыракаплечы;

Шляхетная пасадка галавы
І шпацыр па паркеце — тыя рэчы,
Што нам прыносяць славу ці спакой, —
Адно выява марнасці людской?

## Выправа ў Бізанцыюм

I

Тут месца не для старасці. Юнацтва
Ў абдоймах; на галінах і галлі
Пяе экстаз рэліктавае птаства.
Як тут жыццю не красаваць, калі
Звер, птах і рыба ведаюць мастацтва
Прыйсці, пражыць і адысці з зямлі?
У пастцы пачуцця, як пад гіпнозам,
Забудзешся на ўсё, што здзейсніў розум.

II

Істота наймізэрная — стары,
Як пудзіла, загорнуты ў анучы, —
Таксама адгукнецца, угары
Пачуўшы несмяротныя сугуччы.
Але ж не так дужэюць песняры,
Да велічы прыпаўшы неўміручай.
Дзеля таго і плыў праз мора ты,
Каб трапіць у Бізанцыюм святы.

III

О знаўцы ў небным полымі, для спеву
Сыдзіце, як з мазаік на сцяне,
Вы з боскага агню! Святыя, дзе вы?

Каб вечным спевам навучыць мяне,
Спаліце маё сэрца, хай павевы
Нясуць яго ад цела; хай зірне
Душа мая на новую айчыну
І вечнасці кранецца рукачыннай.

IV

Хай назаўжды, сыходзячы з зямлі,
Цялеснае я скончу існаванне.
Адно калі залатакавалі
Ў карункавай каштоўнай філіграні
Мяне ўвасобяць птушкай, адылі
Для базілеўсаў распачну спяванне,
Для валадарак і валадароў —
Пра тое, што прайшло і будзе зноў.

## Леда і Лебедзь

Раптоўны націск крыл, што плешчуць вонках;
чужое сэрца б'ецца ля грудзей;
улонне лашчаць лапы ў перапонках
і дзюба песціць шыю ўсё люцей.

Ці ж адаб'юцца кволыя далоні
ад мужнасці ў аперанай красе?
Як сцёгнам, аслабелым у палоне,
не саступіць чужынцу пакрысе?

Прыйдучае ёй апладняе нетры:
тут гібель Агамемнана, дары
данайцаў і забойствы між руінаў...

Ці ж моц і веда ўладара паветра
ёй да тае адкрыліся пары,
як ён яе, насычаны, пакінуў?

## Вежа

I

Ці недарэчнасць гэтая кагосьці —
О сэрца стурбаванае! — міне?
Не, старасці сабачае ахвосце
Карыкатурай робіць і мяне!
Ніколі жарсць і прыхамаці духу
Так не кіпелі ў сэрцы, вока й вуха
Так не чакалі цуду — з той пары,
Як вудзіў тут на чарвяка ці муху
Й прыходзіў да чароўнае гары,
Дзе летні дзень бясконцы, як жыццё...
Збірайся, Муза, верная сяброўка, —
Платон і Плотын клічуць у вандроўку.
Я голыя ўяўленне й пачуццё
Зноў прыбяру ў абстракцыі старыя:
Шчэ захаваў чужое шкумаццё
Ў куфэрку, што цягну на ўласнай шыі!

II

Падняўся на муры й гляджу наўкола:
Падмурак дома й побач дрэва з долу
Мкне галамнём абпаленым, бы кнот...
Я занураю позірк у заход,
А сэрца кліча — покуль не пагас! —
Відзежы і ўспаміны,

Пытае дрэвы й крохкія руіны,
Яшчэ спадзеючыся на адказ.

Там, за гарою, місіс Фрэнч сядзіба.
Раз паслугач, што ведаў яе хібы,
Спазнаўшы добра міласці і гнеў,
Без словаў гаспадыню разумеў,
Але ж да жартаў ставіўся ўсур’ёз,
Нахабу-селяніну
Адрэзаў вушы й гэтую даніну
На сподачку спадарыні прынёс.

Вось маладосці даўняй успаміны:
Жыла ў даліне гожая дзяўчына.
І песняю дзявочы ясны твар
Тутэйшы калісь выславіў пясняр.
Калі яна трапляла на кірмаш,
Збіраўся люд цікавы,
Каб дакрануцца да мясцовай славы
І зноў красуню выхваляць наўсцяж.

Тост за яе прамовіўшы шматкротна,
Ад рыфмаў звар’яцеўшы незваротна,
Мужчыны раз паўсталі з-за стала,
Каб праўдзіць, ці прыгожаю была.
Па месяцовым поўразе святла
Йшлі крокам нецвярозым,
І музыка заблытала ім розум,
А аднаго да багны прывяла.

Не дзіва, што пясняр быў невідушчы:
Яму ўначы не трэба кнота й тлушчу.
Ад першай да апошняе стапы
Паэзію ствараў Гамэр сляпы,

І вабіла Алена ваяроў...
Няхай жа месяц з сонцам
Зліюцца ў промні, зыркім і бясконцым,
І спеў мой шал нясе ў людскую кроў!

Калісьці я прыдумаў Ханраана,
Які, старым манюкам ашуканы,
За блізкі свет аднекуль з гэтых хат —
П’яны? цвярозы? — аж за далягляд
Бег, падаў, бег... Плён высілкаў усіх —
Разбітыя калені
Ды вусцішная веліч захаплення;
Праз дваццаць год я сам яе спасціг.

Аднойчы Ханраан гуляе ў карты,
І вось махляр распачынае жарты:
Падзьмуўшы на калоду з двух бакоў,
Ён робіць карты... зграяй ганчакоў;
Апошнюю адну, відаць, на смех
Стары ператварае...
У зайца; заяц прэчкі, следам зграя —
І Ханраан, раз’ятраны, пабег.

Куды? Ужо не ўспомню. Ну і досыць,
Бо сёння памяць па другім галосіць:
Ні міласць яму шчасця не дала,
Ні спеў, ні вушы ў сподку да стала;
Ён колісь быў легендай, а цяпер
І сведкаў не пабачу
Таго, як дажываў свой век сабачы
Банкрут, што й пахаваны напавер.

Пакуль муры не параслі травою,
На лесвіцах узброеныя воі

Тут бразгалі бранёй. Мінулы час
З глыбінь Вялікай Памяці да нас,
У сны жывых, гасцей жахлівых шле:
Нам чутныя на сходах
І стогны немыя, і цяжкі подых,
І груканне касцяшак па стале.

Я вас хачу спытаць, прыходзьце, госці:
Сляпы вандроўны служка прыгажосці,
Падмануты старым гулец руды
Й ты, напаўрыцар, завітай сюды;
І ты, што вушы атрымала ў дар
На сподку з гербам Фрэнчаў;
І ты, што ў багне патанаў і енчыў,
Вясковай кралі згадваючы твар.

Усе, старыя, багачы й галота,
Хто выхадзіў тут скалы і балоты,
Ці ж вы паўсталі колісь на сваю
Старэчасць, як я сёння паўстаю?
І кожны мне адказвае пагляд,
Загубай апантаны.
Што ж, адыходзьце, толькі Ханраана
Пакіньце — гэта памяці паклад!

Ты, што грашыў на ўсякім скрыжаванні,
Выцягвай вонкі з памяці адхлані
Усё, што за магілаю спасціг,
Бо, пэўна, кожны небяспечны сіг
У цемру слыху, зроку і чуцця
Ты падлічыў наперад —
Усё, што незваротна цягне ў нерат,
У лабірынт чужога нам быцця.

Ці зноўку згадка-здрадніца падсуне
Імя здабытай, страчанай красуні?
Згадзіся, ты згубіў яе тады
Праз пыху, ад дурноты і жуды;
Так званае сумленне ажыло.
Калі ж прачнецца памяць,
Нябёсы зацьма поўная запляміць,
І згіне ў ночы ўсякае святло.

III

Складаць тастамент пара.
Спагадлівых выбіраю.
Яны — на дрэве кара,
Яны — бруя ў вадаграі,
Яны штозолку ў вадзе,
Паміж камянёў з вудзільнам.
Няхай іх мой гонар вядзе
Наперад крокам няўхільным —
Ні манна салодкай маны,
Ні дзеі дзіўнай дзяржавы,
Ні бізнес, ні бізуны,
А Грэтана й Бёрка слава,
Народу, якога зло
Прымусіць да зла не ў стане!
Ягоны гонар — святло,
Нястрымнае прыйсце світання,
Чароўнага рогу кліч,
Раптоўная зліва ў спёку,
Святоўнага сонца зніч —
Каштоўны дарунак воку,
Калі ва ўсім харастве
Ўгары праменне ўваскрэсне
І лебедзь у ззянні плыве

Й пяе апошнюю песню...
Сцвярджаю веру сваю,
У твар смяюся Платону,
На Плотына проста плюю:
Жыцця не было, ані скону,
Пакуль чалавечы парыў
З нябыту, мары і зморы
Аднойчы ўсяго не стварыў —
Так, сонца, месяц і зоры,
І смерць — падарожжа ў край,
Нябачны нашаму зроку, —
Сабе збудаваўшы рай
На месяцы з цёмнага боку.
Я ўдзячны вам за спакой,
Каменне Спарты і Троі,
Лацінскай веды напой,
Паэтаў пекныя мроі;
Вам, рэха мілосных слоў
І рысы былой каханай,
Руплівай памяці ўлоў,
З якога творым люстраны
Звышчалавечы сон!

Так галкі без адпачынку
У дзюбах свой прышлы плён
Нясуць — за галінкай галінку.
І будзе пастаўлены дом,
І сядзе ў сяродку саміца,
І станецца ўтульным гняздом
Куток цаглянай байніцы!

Спагадлівы й малады,
Што з вудай бесперастанку
На камені ля вады,

Што ў зыркім бляску світанку
На горны ўзбіраецца схіл, —
Табе мой гонар і вера!
Я быў такі ж, покі сіл
Не вычарпала папера.

Сапраўднай ведай душу
Пара гартаваць прыспела,
Служыць апошнюю мшу,
Аж гідкія рэшткі цела,
Ажно атрутная кроў,
Што забівае паціху,
Аж скон найлепшых сяброў —
Найгоршае ў свеце ліха! —
І нават змяркание тых
Вачэй, што бруілі ззянне,
Мне перапыняючы дых, —
Усё да канца растане
У ззянні хмар залатых,
Пакуль да канца не сціх
Птушыны спеў на змярканні.

*Ўолес Стывенс*

# Трынаццаць спосабаў убачыць чорнага дразда

I

Між двух дзясяткаў снежных гор
Адзінаю рухомай кропкай
Быў позірк чорнага дразда.

II

Мой патроены розум —
Як дрэва,
Дзе ідаць трох чорных драздоў.

III

Чорны дрозд кружляе на вятры —
Эпізод асенняй пантамімы.

IV

Мужчына і жанчына —
Адно цела.
Мужчына і жанчына
Й чорны дрозд.

V

Не ведаю, што для сябе абраць:
Красу гучання
Ці красу змаўчання,
Спеў чорнага дразда
Ці паўзу потым.

## VI

Акно загарадзілі ледзякі
Напаўпразрыстым першабытным шклом,
Па-за якім мільгаў узад-уперад
Цень чорнага дразда;
Я ж, паслухмяны
Настрою, віжаваў яго, шукаў
Таемнае прычыны.

## VII

О вы, насельнікі худыя Годэма,
Навошта сніце залатую птушку
Й не бачыце, як скача чорны дрозд —
Тут, ля абцасаў
Вашых спадарожніц?

## VIII

Я знаюся на велічных памерах,
На нечаканых, непазбежных рыфмах;
Я ведаю — да ўсякіх маіх ведаў
Далучаны таксама
Чорны дрозд.

## IX

Чорны дрозд знікае з відавоку,
Нібы пазначаючы мяжу
Аднаго з магчымых даляглядаў.

## X

Зірніце на чорных драздоў
У зялёным святле —

І ўсе прастытуткі з бардэлю прасодыі
Зойдуцца ў шчасным вішчанні.

## XI

Аднойчы, едучы ў шкляной карэце
Цераз Канэктыкут, ён адчувае
Раптоўны страх,
Бо цень ад экіпажа
Яму здаецца
Чорнымі драздамі.

## XII

Усё цячэ.
Чорны дрозд мусіць лётаць.

## XIII

Ад раніцы да вечара быў вечар.
Снег падаў
І адно збіраўся падаць.
А чорны дрозд
Сядзеў сабе на кедры.

*Эзра Паўнд*

## Віянада на Каляды

Калядамі (сярод дароў
І пастушыныя ў пашане!)
Ў палях глухі ваўчыны роў —
Ядуць падліну на сняданне
Пад піва снежаньскіх вятроў.
А я ў святочным прадчуванні:
Каб чыстым быць, між брудароў
Я п'ю за леташнія здані.

Якая зорка трох цароў
Вяла ў пячору на спатканне?
Мяне ж вядзе сляпая кроў
І цень памерлага кахання,
Што ўвесну ажыве і зноў
Паабяцае і падмане,
Як гэтым разам. Будзь здароў,
Я п'ю за леташнія здані!

Планеты воляю багоў
Сышліся ў зорным акіяне.
Дзе ж смех сяброўак і сяброў,
Юр і шляхетнае трыванне,
Пагрозы вуснаў-ваяроў,
Тваіх вачэй выратаванне,
Мая загуба й пэўны схоў?..
Я п'ю за леташнія здані.

Прынц, змест маіх блюзнерчых слоў
Не варты вашага пытання;

Яго віхор нясе далоў:
Я п’ю за леташнія здані.

## Белы алень

Я бачу іх у верасовай смузе.
Зірні! Іх не спыніць журба ці каханне,
Хоць іхнія вочы — тужлівыя вочы каханак!
Праз белым вятрыскам знявечаны ранак
За белым аленем імкнуцца, угледзеўшы мэту:

*«За Белым Аленем — за Славаю —*
*мчыць паляванне,*
*Склікаючы гончыя зграі сусвету!»*

## Silet*

Цячэ атрамант, плынны, як гады,
З крыніцы несмяротнасці дармовай,
Што некалі засохне назаўжды,
І гэтай тэмы хопіць для прамовы.

Нам хопіць стрэч мінулае пары,
І не аздоблю згадкай новы твор я!
Мы крочым праз асеннія вятры,
Чакаючы вясновага надвор’я.

Нам хопіць стрэч мінулае пары;
Хай супраць ветру пралівень паўстане.

---

* Ён змаўкае (*лац.*).

Нам хопіць стрэч мінулае пары;
Наш сведка — час. Яму няма вяртання.

І кожны спадкаемца заўтра ўшчэнт
Зруйнуе наш «Вялікі тастамент».

*Верона, 1911*

## Плашч*

Ці ты захаваеш пялёсткі ружы,
Калі час ружаў міне,
Юрліўца-Нябыту цябе кране пацалунак?
Ці змрочны Гадэс падорыць каханка,
Лепшага за мяне?
Ці новыя краскі красе тваёй паратунак?

Дык лепш у мой плашч загарніся самохаць —
Смерць гвалтам агорне нас.
Не вочы мае павінны палохаць,
А плынны час.

## το καλόν**

Ты зноў мне адмаўляеш — нат у мроях —
І шлеш адно служанак узамен.

* Парафраза дзвюх эпіграм: Асклепіяда (1–6-ы радкі) і Юльяна Егіпецкага (7–10-ы радкі).

** Краса (*старажытнагр.*).

## Альба

Халодная, нібы вільготнае,
Бледнае лісце канвалі, яна
Ляжала са мною на золку.

## Envoi (1919)

*(фрагмент з паэмы «Х'ю Сэлвін Моберлі»)*

Ідзі, нямая кніга, і скажы
Той, што мне колісь Лоўэса пяяла:
Ты чула спеў
Дый іншага нямала,
І, можа, дараваўшы мне заганы,
Мае грахі — і самы нечуваны,
Сягнула б несмяротнасці мяжы.

Скажы
Той, што хавала ў небе скарбы,
Адно каб ейнай прыгажосці фарбы
У кожнай адбіваліся хвіліне,
Што я падараваць мог урачыста
Ім неўміручасць ружаў у бурштыне,
Адзіны колер і адзіны пах,
Чырвоную й аранжавую істу,
Каб красавалі ў вечнасці ў руках.

Скажы ёй
(Той, што ў вуснах спеў нясе
І не пяе, не знае, як усе,
Пра творцу), што аднойчы ў нечых вуснах,

Як у яе, прыгожых і спакусных,
Гучацьме хваласпеў і ёй, калі
Уолеравыя з маімі косці
Нарэшце спарахнеюць у зямлі
І адыдуць усе, што тут жылі,
І ўсё загіне — па-за прыгажосцю.

* * *

«Куды ты? — палохае рыцара рытар. —
Там печы палаюць у лютым агні,
Там жудасна, братка, смуродна і брыдка.
З пякельнай дарогі хутчэй павярні!»

«Спыніся! — палохае мужнага мажны. —
У цемру праз вусцішны крык будзе крок!
Бяда на парозе, і вернай паразе
Свой ветраны лёс аддаеш ты знарок».

«Ратуйся! — пужае адважнага важны. —
Драпежная птушка лягла на крыло,
Пагібельны морак сядае на карак
І трупнымі плямамі цела пайшло!»

«Наперад!» — адказвае рытару рыцар.
«Не страшна!» — адказвае мажнаму мужны.
«Сам бойся іх!» — важнаму кажа адважны,
Ужо недасяжны, ужо недасяжны.

## Пахавальны блюз

Спыні гадзіннік, тэлефон заткні.
Сабаку ў зубы костачку, каб не было брахні.
Ніякага раяля. Хай адны
Ударныя. І плачкі ля труны.

Хай самалёты словамі двума
Пакрояць небасхіл: «Яго няма».

Хай у жалобе галубы. Хай слёзы на шчаках.
Хай чорныя пальчаткі на рэгуліроўшчыках.

Ён быў мой Поўдзень з Поўначчу, мой Захад,
мой Усход,
Мой тыдзень і выходныя, штомесяц і штогод,
Мае размовы поначы і шэпты давідна:
«Каханне будзе жыць». Усё мана.

Дык месяц з неба выкруці і зоры ўсе ўгары,
Злі акіяны ў мыйніцу і дрэвы прыбяры,
А раніцою вырубі нябеснае святло —
Ніколі ўжо не будзе як было.

## Musée des Beaux Arts

Як яны зналіся добра на чалавечым
Болі, тыя старыя майстры — ніводзін
Ролі пакутаў не перабольшваў:
покуль баліць аднаму,
Іншы паснедаў, глядзіць у акно, займаецца
нечым;
Покуль валхвы чакаюць цудоўных народзін,
Знойдзецца вісус, які не зменіць паводзін,
На каньках лятаючы ўсю зіму.
Тыя майстры памята́лі:
Нават разня немаўлят адвечным парадкам
Мусіць ісці, бо гэта — толькі дэталі
На карціне, дзе брэшуць сабакі, а конь,
прывязаны катам,
Трэцца аб дрэва сваім азадкам
Невінаватым.

Вось, напрыклад, на Брэйгелевым «Ікары»
Ўсе павернуты спінамі да ахвяры;
Мабыць, араты і чуў адзінокі крык,
Ды не звярнуў увагі; сонца пякло як трэба;
Белы тапелец у хвалях зялёных знік,
А выпадковыя сведкі на велічным караблі,
Ўбачыўшы, як забаўна хлопчык падае з неба,
Мусілі плысці далей — і далей паплылі.

## Памяці Ў. Б. Ейтса

*(памёр у студзені 1939)*

I

Ён знік у зімовай сцюжы:
Замёрзлыя ручаі, апусцелыя аэрапорты,
Знявечаныя помнікі пад снегам.
Іртуць падала ў роце дня, што таксама канаў.
О, паводле ўсіх прыбораў
Дзень ягонае смерці быў цёмным халодным днём.

Удалечыні ад ягонай хваробы
Ваўкі па-ранейшаму шнырылі ў хвойных
гушчэчах,
Вясковыя рэчкі не спакушаліся модным гранітам,
Хаўтурныя словы
Хавалі ад смерці ягоныя вершы.

Але ж для яго гэты дзень быў апошнім,
Быў днём сядзелак і чутак.
Прадмесці ягонага цела паўсталі,
Пляцы ягонага розуму апусцелі,
Маўчанне апанавала ўскраіны,

Плынь пачуццяў аслабла.
Цяпер ён — гэта толькі ягоныя чытачы.

Параскіданы па тысячах гарадоў,
Цяпер ён аддадзены цалкам чужым
прыхільнасцям,
Каб знайсці сваё шчасце ў тамтэйшых змрочных
лясах
Ці быць пакараным па тамтэйшых законах
сумлення.
Слова мёртвага
Вандруе ў вантробах жывых.

Але ў клопаце й грукаце Заўтра,
Калі брокеры зноў, бы звяры, завыюць на біржы,
А бядняк, як раней, будзе жыць у прывычных
пакутах,
І кожны, замкнуты ў вязніцы самога сябе,
Будзе ўпэўнены, нібы ён вольны, —
Некалькі тысяч згадаюць пра гэты дзень
Як пра дзень незвычайны.
Так, паводле ўсіх прыбораў
Дзень ягонае смерці быў цёмным халодным днём.

II

Ты быў такі ж, як мы; ўсё вытрываў твой дар:
Цялесны заняпад, кабеты-мецэнаткі.
Ты стаўся песняром Ірландыі-вар'яткі
(Хранічна хворае, як сведчыць каляндар).
Паэзія жыцця не зменіць ні на волас:
Адвечным рэчышчам уласным, дзе няма
Падліку галасоў, плыве яна паволі з
Паселішчаў тугі ва ўбогі мегаполіс,

Дзе верым у жыццё і гінем задарма,
Сама — жыццё і голас.

III

Сустракай, магільны лёх:
Ўільям Ейтс у глебу лёг,
Не замкне сваіх радкоў
У ірландскі дарасхоў.

Час, няўмольны барацьбіт,
Зрыне мужнага ў нябыт,
Бо ў цялесным характве
Несмяротнасць не жыве;

Ды багоміць Мовы храм
І найлепшым песнярам,
Хто пяе ў яе званох,
Час вянок кладзе да ног.

Час даруе пакрысе
Кіплінгу заганы ўсе,
Як за талент наўсуцэль
Апраўданы Поль Кладэль...

Скавытанне воўчых зграй
Працінае кожны край,
Люты люд схавацца мкне
Ў варажнечы, бы ў труне.

Разумовай ганьбы вар
Бы апарыў кожны твар,
А спагаднасці ачаг
Больш не цепліцца ў вачах.

Дык зрабі, паэце, крок
У бяздоннай ночы змрок,
Несучы хвалу красе
Ў гучным шчырым голасе.

Як садоўнік — працы плён,
Выгадоўвай верш-праклён
І, раз'юшаны, паўстань
На людскую неталань.

У пустэльню нашых душ
Жыццядайнай плыняй руш
І ў вязніцы роспачы
Вольных гонару вучы.

*Леанард Коэн*

## Ідзе вайна

Ідзе вайна між багачом і жабраком,
паміж кабетай і мужчынам.
Ідзе вайна між тым, хто грозіць кулаком,
і тым, хто кажа: ні пры чым ён.

А ты чаму не йдзеш на вайну? Збірай валізку.
А ты чаму не йдзеш на вайну? Вайна ўжо блізка.

Я ім кажу: «Са мной каханка і дзіцё».
Яны ў адказ: «Не трэба казак!»
Яна заплача: «Ім пляваць на пачуццё».
Я растлумачу: «Абавязак».

А ты чаму не йдзеш на вайну? Пасцель —
для хворых.
А ты чаму не йдзеш на вайну? Не дрэмле вораг.
А ты чаму не йдзеш на вайну? Панюхай порах.

А ты мяне не пазнаеш:
маўляў, рамантыка люблю
свайго юнацтва.
А мне гавораць: «спі!» і «еш!»,
і я слухмяна ем і сплю,
а думкі пра вайну — адно вар'яцтва!

А ты чаму не йдзеш на вайну? З крывёй і потам.
А ты чаму не йдзеш на вайну? Вяселле — потым.

Ідзе вайна між багачом і жабраком,
паміж кабетай і мужчынам.
Ідзе вайна між даланёй і кулаком,

вайна між пальцам і курком,
між немагчымым і магчымым.

А ты чаму не йдзеш на вайну?
Вайна — твой шанец!
А ты чаму не йдзеш на вайну? Пакуй свой ранец!
А ты чаму не йдзеш на вайну? Хутчэй, засранец!

## Знакаміты сіні плашч

Чацвёртая ранку, трыццатага снежня.
Як ты пажываеш? Нішто? Ну, канечне.
Узімку ў Нью-Ёрку далёка да раю,
Ды ўвечар на Клінтан-стрыт музыка грае.

Я чуў, ты будуеш патроху жытло сабе недзе
ў пустэчы,
Не знаеш, як жыць, але, веру, усё памятаеш.
Дарэчы,

У Джэйн
ёсць
пасма тваіх валасоў:
На згадку мінулых часоў
Ты ёй падарыў, як сышоў...
Ці напраўду сышоў?

Апошнія дні выглядаў як стары ты,
Падраў на плячы сіні плашч знакаміты,
Хадзіў сустракаць на вакзал цягнікі,
Ды з Лілі Марлен размінуўся-такі.

Не ведалі вы, што аскепкаў не склеіць і ёй:
Хоць вернецца, будзе ужо нічыёй.

Помню, як
ты
ружу трымаў у зубох,
Як цыган, краў што мог.
Толькі й ты быў не Бог...
Яна шле прывітанне.

Ды што тут казаць, што тут скажаш, мой браце,
Калі забіваюць браты?
Я ўсё дараваў, я прыпомню наўрад ці,
Я рады, што з ёю быў ты.

А паклічам вярнуцца — ці я, ці яна:
Ведай, спаць будзе вораг, жонка будзе адна.

І яшчэ. Знаеш, дзякуй табе: больш няма
Страху ў ейных вачах — я стараўся б дарма.

Але
ёсць
пасма тваіх валасоў:
На згадку мінулых часоў
Ты ёй падарыў, як сышоў, —

Заўсёды твой
Коэн.

## Алілуя

Таемны голас. Вы — удвох
Пяе Давід, і чуе Бог
Астатніх гэта песня не хвалюе
Знаёмы лад. Вядомы спеў

Так цар збянтэжана хрыпеў
Усё, што меў, уклаўшы ў Алілуя

Ты прагнуў веры? Вось яна
На даху ў ваннай давідна
На трон і на жыццё тваё палюе
Прывяжа да сваёй красы
На кухні зрэжа валасы
І вып’е з тваіх вуснаў Алілуя

Ты кажаш: хібнае імя
Ды што ў імёнах, акрамя
Таго, за што й без імені люблю я
Няважна, грэшнік ці святы
Бо ў кожным слове чуеш ты
Як вогнішчам палае Алілуя

Як неслухмянае дзіцё
Жыву навобмацак жыццё
Раблю няшмат, з табою не махлюю
Ды Госпад Песні ўсё адно
У хвілю, калі ўсё чутно
Не словы чуцьме — толькі Алілуя

## Кожнаму відно

Кожнаму відно што падмануць карты
Кожнаму відно сплюнь цераз плячо
Кожнаму відно што пацан быў варты
І дарма чакае з вайны дзяўчо
Кожнаму відно хто вярнуўся босы
Жабракі галеюць таўсцеюць босы

Кожнаму даўно
Гэта ўсё відно

Кожнаму відно працякае лодка
Кожнаму відно капітан мудак
Кожнаму паршыва на сто адсоткаў
Нібы страціў бацьку паршыва так
Кожнаму відно дзе чые кішэні
Шакаладкі ружы ды запрашэнні
Й фішкі ў казіно
Кожнаму відно

Кожнаму відно як мяне бязмерна
Ты кахаеш дзетка на старане
Кожнаму відно як была ты вернай
Тры-чатыры ночы дый то не мне
Кожнаму відно што вакол нямала
Тых перад якімі ты ўсё здымала
І тваё кіно
Кожнаму відно

Кожнаму відно сёння ці ніколі
Кожнаму відно што не я дык ты
Кожнаму відно жыць яшчэ даволі
Хопіць алкаголю і наркаты
Кожнаму відно ў нас усё цудоўна
Чорны Джо збірае й далей бавоўну
Нам на палатно
Кожнаму відно

Кожнаму відно наступае голад
Кожнаму відно што ідзе Чума
Кожнаму відно што мілосць не волат
Двум каханкам трупамі быць двума

Кожнаму відно што ўвесь свет магільнік
Толькі ў тваім ложку стаіць лічыльнік
Лічыць усё адно
Кожнаму відно

Кожнаму відно што ў шызе ты профі
Трубіш па жыцці і жыццё ў трубу
Ад крыжовых мук на тваёй Галгофе
Да ружовых сук з пляжаў Малібу
Кожнаму відно гэта ўсё ўтрасецца
Толькі паглядзі на Святое Сэрца
Кожнаму відно
Выбухне яно

## Будучыня

Дай мне зноў разбітых сноў
Мой тайны храм, люстраны схоў
Сумна ў катавальні. Дзе ахвяра?
Дай мне ўладу і кантроль
Над усім, што знае боль
І кладзіся побач — гэта кара!

Знесла крэкам паўстрахі
Што звычайныя грахі
Што садомскі — ўсё адно з табой мне
Дай мне зноў вялікі пост
Генацыд і халакост
Будучыня — проста смерць на бойні

Усё на глум, на глум
Былое — смецце
Толькі рэшткі

Рэшткі ўсё віруюць увушшу
Завея, завея ва ўсім свеце
Й апрамецце
Як навала
Зруйнавала ўшчэнт душу
Мне крычаць: ПРЫЗНАЙ ВІНУ!
Але чаму адну?
Мне крычаць: ПРЫЗНАЙ ВІНУ!
Чаму ўсяго адну?

Я табе амаль ніхто
Я нуль, падзелены на сто
Маленькі вечны жыд, што піша Тору
Я глядзеў на ўсё, што ёсць
І паўсюль адно мілосць
Прарастае часам у прастору

Вунь прыйшоў твой пасланец
Нам расказаць, што ўсім канец
Пасланец суворы й непадкупны
Неба падае згары
Д'ябал дыхае ўнутры
Будучыня — бойня. Хто наступны?

І раптам ляснецца заходні ўвесь канон
Жыццё тваё пакоціць пад адхон
Агні на трасах і пачвары наўздагон
З танцорам у белым
І ўбачыш галавою ўніз яе
Сукенка да зямлі не дастае
І ўсе падонкі вершавання
Што скуголяць
Як маньяк над мёртвым целам
З танцорам белым

Дай мне зноў вялікі пост
Генацыд і халакост
Дай мне ўкрыжаванне ў Хірасіме
Знішчы новае жыццё
Усё адно, чыё дзіцё
Будучыня здарыцца з усімі!

# З НЯМЕЦКАЙ МОВЫ

*Райнэр Марыя Рыльке*

## Лебедзь

Гэта шлях праўдзівае пакуты —
Шлях да мэты, што яшчэ не змог
Дасягнуць, і крочыш, нібы скуты.
Так па сушы чыкільгае лебедзь,
Покуль смерць яго не абязглебіць,
Звыклы бераг выбіўшы з-пад ног.

Ён жа занураецца нясмела,
Аддае вялікаснае цела
Хваляў паслухмянай чарадзе
І павольна пачынае плысці —
Ўсё сталей, узнёслей, урачысцей,
Велічней царуе на вадзе.

*Ганс Ляйп*

## Лілі Марлен

Перад казармай,
дзе ўначы ліхтар
ліў святло на твар мой
і табе на твар, —
зноў бы стаяць, без перамен,
пад ліхтаром, ля гэтых сцен,
з табой, Лілі Марлен.

Нашыя два цені
зліліся ў адзін.
Мроі-летуценні
й не стае гадзін.
Глядзі, хто прагне палкіх сцэн,
як мы ўдваіх ля гэтых сцен
стаім з Лілі Марлен.

Я пасля адбою
мчуся да цябе.
Хай мне свеціць трое
сутак на «губе»,
буду ўсю ноч, як верны цень,
ізноў стаяць ля гэтых сцен
з табой, Лілі Марлен.

Бачыў тваю постаць,
слухаў кожны крок,
ды каханне помсціць,
нават незнарок...
І хто цяпер, мяне ўзамен,

пад ліхтаром, ля гэтых сцен,
з маёй Лілі Марлен?

З цемрадзі і згубы,
з роспачы на дне
клічуць твае губы,
нібы ў сне, мяне.
Хай зноў мілосць кранецца вен,
і буду зноў ля гэтых сцен
з табой, Лілі Марлен.

# З ПОЛЬСКАЙ МОВЫ

***Адам Міцкевіч***

## Акерманскія стэпы

Выходжу ў плаванне праз акіян сухі,
Вазок, бы лодачку, лугі апанавалі;
Прыбой зяленіва ў квяцістым пакрывале
І выспаў бур'яну гайдаюцца вярхі.

Усё гусцее змрок — ні сцежкі, ні вяхі,
І падарожных зор не бачу я ў навале.
Як раптам — золак? зніч? Днястра заззялі хвалі.
То Акерман — маяк паказвае шляхі.

Так ціха! Спынімся! Лёт чую жураўліны,
Што ўбачыць здолее адзін арол на сто;
Вось мятліка крыло кранаецца сцяблiны,

Вось прапаўзае вуж — і мне здаецца, што
Пачулася здалёк на нейкую хвіліну,
Бы кліча хто з Літвы... Паехалі — ніхто!

*Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі*

## Зачарованая фурманка

*Наталлі — ліхтарыку*
*зачарованае фурманкі*

I
Allegro

Запытайся ў сяброў,
яны ў курсе таксама.
Шэсць загадкавых слоў —
вось і ўся тэлеграма:
ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА
ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗНІК
ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ

Напісаў без памаркі
чарадзей Бэн Алі:
«Зачароўваць фурманкі
вы таксама б маглі:

бліснуць возніку ў вочы
адмысловаю брошкай;
бліснуць брошкаю двойчы —
зачаруюцца й дрожкі;

але конь — не!» Званю:
«Ці магчыма, каб коней?»
Бэн Алі ў тэлефоне:
«Не паверу ў хлусню!»

Шчэрыць рот белазуба
паштальён уначы.

Валасы ўсталі дуба,
хоць ад жаху крычы:
ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА?
ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗНІК?
ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ?

Задрыжаў і заахаў.
І кружылася п'яна
срэбра кракаўскіх дахаў,
нібы словы ад Яна
стаць загадвалі зоркам
па-над лісцем на якар.

Можа, я падвячоркам
сам замовіў фіякр?

Можа, прагнуў натхнення
і хацеў у вандроўку,
мо рамізніку сненні
звілі вус у вяроўку
і знячэўку прыйшлі
вецер, ноч, Бэн Алі,
ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,
ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗНІК,
ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ?

II

Allegro sostenuto

Ад Венецыі аж да Суконнага рада
на Артуру і Ронарду вісну анучай.
Але крочыць няпроста. Як даць сабе рады?
Свеціць шыльдамі Кракаў на трох небаракаў —
і шалёныя ліхтары лепяцца ў кучы:

III
Alegretto

ўночы НАБІВАННЕ ЧУЧАЛ
ўночы КРАМА «ЎСЁ ДЛЯ ХАТЫ»
ўночы КАВА і ГАРБАТА
ўночы МЯСА й МАЛАКО
ўночы МЭБЛЯ РАКАКО

ўночы ЛАЗНЯ і ЦЫРУЛЬНЯ
КАЗІўНОчы КОН І ГУЛЬНІ
ўночы ШОЎ КАРОЛЬ ЯМАЙКІ
ўночы СТАНІКІ і МАЙТКІ

ШКОЛА ТАНЦАЎ на тры чвэрці
ВАЛЬС а рэшта СКОКІ СМЕРЦІ

ўночы ГУРТ «СЯБРЫ КАСЦЁЛА»
ўночы ЎСЁ-ШТО-ЁСЦЬ-НАЎКОЛА

словам, вечныя сябры —
ноч і начныя вятры.

IV
Allegro ma non troppo

Мы прыйшлі да карчмы «У мурынаў»:
э-эх, з полымя ды ў агонь!
Толькі погляд на пляц я кінуў —
звар'яцееш ад гэткіх навінаў! —
ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,
ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗНІК,
ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ.

З вежы Мар'яцкай святло цярушыць,
а конь, уяві, сам вушамі варушыць.

V

Allegro cantabile

Грыва і хвост адліваюць белым,
вецер у грыву і белы вэлюм.

Панну да шлюбу вязе фурманка,
панну й матроса, яе каханка.

Вабіў матроса мора блакіт:
кінуў дзяўчыну, змяніў краявід,
ды памыліўся — з’еў яго кіт.

Следам за любым — нявеста ў труну,
смерць не пакінула панну адну.

Так, бо каханне — вялікая сіла —
нават па сконе іх зноўку злучыла.

Зноўку трымае візнік ляйчыны,
едзе жаніх з прыгожай дзяўчынай.

Недзе ў прадмесці, ў старой капліцы,
цілі-цілі-цеста замесіцца:
злучыць навек з суженцом сужаніцу
ксёндз мясцовы, падобны да месяца.

Ноч. З матросам яго абранніца.

Але, як ні шкода, з раніцы
ў браме, дзе дражняць няўмекаў
барочныя сны мастакоў,
згінуць, нібы пад векам,
на векі вякоў:
ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,

ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗНІК,
ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ.

VI

Allegro furioso alla polacca

На рагу Піўной і Шпаркай
грае вальс «Сланы пад чаркай»,
кнайпа ходзіць ходырам.
Там у слоіках гуркі,
па-над кухлямі — дзядзькі,
зачарованыя водарам.
Прамаўляе пан Аношка:
покуль трошкі маем дрожкі,
покуль Вісла мае хвалі,
а мы коней захавалі,
не стаіць вазок парожнім,
застануцца ў месцы кожным,
хоць не дужае цаны,
хоць няшмат, ну хоць адны —
ЗАЧАРОВАНАЯ ФУРМАНКА,
ЗАЧАРОВАНЫ ВОЗНІК,
ЗАЧАРОВАНЫ КОНЬ.

*1946*

# Маленькія кінатэатры

*Станіславу Марыі*
*Салінськаму, аўтару*
*«Марскіх аповесцяў»*

Маленькія кінатэатры,
бальзам засмучаным душам!
Рады ababітыя мяккім
чырвоным, як сэрца, плюшам.

Хоць на дварэ яшчэ светла,
вецер лямпу калыша
і запрашае ветла
добрая вестка — афіша.

Гоман стаіць нецвярозы
ў электрычным святле;
прадаюць папяросы,
карамелькі, суфле.

І месяц па трэцяй квадры
нам рукі працягвае сам.
Маленькія кінатэатры,
засмучаным душам бальзам!

Красуня з драўлянай ка́сы
нясе чарадзейства ў масы.
Купляеш білет і ўваходзіш,
а з цемры — пяе кіно:

у шолаху кіна-пальмы
пакрочым у кіна-даль мы,
туды, дзе ў срэбраным дыме
чужое жыццё відно.

Сюды, шукаючы схову,
у зліву і завіруху —
і не казаць ані слова,
і не рабіць ані руху.

Гаючы прамень, ён варты
пакут у зраненым сэрцы.
І дрэмлеш у кінатэатры,
як валянцінка ў канверце:

«Ці кахаеш мяне хоць крышку?
Знаеш, цяжка спаць на самоце.
На якім сустрэнемся мосце?
Цалую,
твой Плюшавы Мішка».

І выходзіш зачараваным
кінематографаманам,
брыдзеш супраць ветру ўскраінай
і згадваеш сінема:

маленькія кіназалі,
дзе хэпі-энд у фінале
для ўсіх, каму не сказалі,
што хэпі-энду няма.

*1947*

## Інтымная размова

— Скажы, як мяне кахаеш.
— Скажу.
— А скажы!
— Кахаю пры сонцы. Кахаю ў дажджы.

Кахаю ў берэце і ў капелюшы.
Калі канцэрт. І ў вятры на шашы.
У бэзе й малінах, бярозах і клёнах.
Калі спіш. Калі працай занятая плённай.
Калі яйка згатуеш, надбітае крышку.
І нават тады, калі падае лыжка.
У таксоўцы. У іншым аўто. Без вынятку.
Пры канцы шпацыру і на пачатку.
Калі з грабянцом. Калі возьмеш келіх.
У небяспецы. І на арэлях.
У абутку і без. У гарах і на моры.
І ўдзень. І ўначы. І заўтра. І ўчора.
І ўвесну, з першым птушыным куплетам.
— А ўлетку кахаеш ты?
— Як само лета.
— А ўвосень, калі дзень пахмурны і сонны?
— І тады, як губляеш мае парасоны.
— А зімой, калі ў срэбры аконнае шкло?
— Зімой — як вясёлы агонь, як цяпло.
Ля сэрца твайго спачываю ў кунезе.
А за вокнамі снег.
І вароны на снезе.

*1950*

## Як я быў папулярны

У выходныя, лагодныя,
нібы скрыпка Страдывары,
з добрай мэтай пешаходнаю
шпацырую па бульвары.

А ў парках звіняць капяжы.
Прыемна, і не кажы!

І вось што мяне здзівіла:
усе мінакі навокал
мне так усміхаюцца міла —
так міла з іхняга боку!

Хто едзе ў аўто, хто пешкі —
і ўсе мне дораць усмешкі.

Што гэта? Знак салідарнасці?
Даніна павагі мэтру?
О папулярнасць папулярнасцяў!
(І ловы ветру.)

Мабыць, мой твор віною,
што ля сэрца ў кішэні:
«О ўзрушэнне незямное!
О незямное ўзрушэнне!»

А можа, пусцілі па радыё
на ўсю краіну і свет:
«Няхай і далей нас радуе
прызнаны ў свеце паэт!»

Таму і б'юць у літаўры:
здабыў вядомасць па праве
і вось пажынаю лаўры
й памру ў пашане і славе!..

Ажно знаёмая дама
яснасць нарэшце ўносіць:
«У вас чарнільная пляма на носе».

*1951*

*Чэслаў Мілаш*

## Песенька пра канец свету

У дзень канца свету
Над кветкай настурцыі лётаюць пчолы,
Рыбак ладзіць свой нераток,
У моры вясёлыя скачуць дэльфіны,
А скура вужа ззяе золатам, як і павінна,
Малы верабейка чапляецца за вадасцёк.

У дзень канца свету
Жанчына па полі ідзе з парасонам,
Спіць п’яны ў абдымку з газонам,
На вуліцы крык гандляроў садавінай,
Пад ветразем лодка ідзе, як павінна,
Лунаюць скрыпічныя гукі ў паветры,
Ўначы адмыкаючы зорныя нетры.

А ўсе, хто чакаў перуноў і маланак,
У расчараванні.
А ўсе, што чакалі трубы Арханёла і знакаў,
Не ў стане даць веры, што ён надыходзіць.
Пакуль над зямлёй сонца з месяцам кружаць,
І чмель прылятае да ружы,
І дзеткі ружовыя родзяцца ў жонкі і мужа,
Ніхто не дасць веры, што ён надыходзіць.

І толькі сівенькі стары, які мог быць прарокам,
Але ж не прарок, бо на гэта ёсць іншыя людзі,
Падвязвае памідоры і кажа сабе:
Іншага канца свету не будзе,
Іншага канца свету не будзе.

## Бедны хрысціянін глядзіць на гета

*Пчолы абшываюць чырвоныя вантробы,*
*Мурашы абшываюць чорную костку,*
Пачалося, раздзіраюць і топчуць шоўк,
Нішчаць дрэва і шкло, медзь, нікель і срэбра,
Гіпс і бляху, струны і трубы, крышталь —
Пых! — валасы людзей і поўсць жывёлы глытае
Фасфарычнае полымя з жоўтых сценаў.

*Пчолы абшываюць соты лёгкіх,*
*Мурашы абшываюць белую костку,*
Ірвецца папера, гума, зрэб'е, бавоўна, лён,
Цэлюлоза, жылы, валоссе, драты, змяіная скура,
Палаюць сцены, падмурак,валіцца дах, застаецца
толькі
Пясчаная, здратаваная, з абвугленым дрэвам
без лісця
Зямля.

Павольна рыючы, рухаецца пад зямлёй
вартаўнік —
Крот з чырвоным ліхтарыкам на ілбе.
Абмацвае пахаваных, лічыць, капае далей,
Класіфікуе попел па колеры выпарэнняў,
Кожнага чалавека — па ўласным колеры спектру.
*Пчолы абжываюць чырвоны след,*
*Мурашы абжываюць месца, дзе было маё цела.*

Я так баюся вартаўніка-крата.
Яго павекі сцяжэлыя, бы ў патрыярха,
Што, схіліўшыся над агеньчыкам свечкі,
Доўга чытае кнігу быцця чалавекам.

Што я скажу яму, я, жыд Новага Запавету,
Які дзве тысячы год чакае вяртання Хрыста?
Ён пазна́е мяне па знявечаным целе
І палічыць адным з памагатых смерці —
Адным з неабрэзаных.

## Скарга дамаў мінулага часу

Нашы бальныя строі ўтаптаныя ў прах,
Нашы модныя стужкі згубіліся ў брудзе,
Дарагія кара́лі глыбока ў вірах,
А пярсцёнкі пакралі нядобрыя людзі.

Валасоў нашых колер змяніўся ад полымя:
Што майстры нам у косы ўпляталі натхнёна —
Кветкі, срэбныя зоркі, — у попел пайшло...

А калі з мора ўстане заранка, мы голымі
Паўз муры збудаванага зноў Вавілона
Крочым. Нешта прыгадваем. Хмурым чало.

*1944*

## Джонатану Свіфту

Прашу парады, мой дэкане,
Бо на цябе — уся надзея.
Такое рэдкае спатканне,
Што пыха — кепская ідэя.

Рука прыбою б’е па гальцы,
Аж снег бялюткай пены выпаў.

А ў той рукі на кожным пальцы —
Зіхоткія смарагды выспаў.

Змрок наліваецца ліловы
І па тарфянісках ступае.
Над хатамі кыгычуць совы.
У печцы каша закіпае.

Парык. Манжэты. Побач карта,
Што крэсліш ты пяром гусіным —
Дзеля ўсяго, што ведаць варта,
Хоць бы насуперак усім нам!

На гэтай карце, мой калега,
І я шукаў свае маршруты —
Наведаў бераг Брабдынгнегу,
Быў у насельнікаў Лапуты

І ў еху, што гатовы жэрці,
Хоць кормяцца — уласным калам,
І ў рабскім страху жыць да смерці,
Быць шпегам, здраднікам, фіскалам.

Жыццё разбітае на ролі —
Знаёмы з гэтаю і з тою.
Хоць сэрца з'едзенае соллю,
Ды гэта сэрца не пустое,

Бо ў мудрагельскім асляпленні
Мне бачыць не перашкаджала,
Што свет не варты захаплення,
І захапляцца ім да шалу.

Дэкане, дзе такая вадкасць
І дзе знайсці такі пергамент,

Каб створанае мела вартасць,
Каштоўнейшую за атрамант?

Пазыч нам розуму, асветнік,
Як людзям вочы не мазоліць,
Бы той публічны прапаведнік,
Што ў сне ад сораму скуголіць.

Паэты тоўпяцца пры троне
І пра тыранаў пішуць кнігі,
Гнуць спіну торы, і ў паклоне
Ніжэй спіны цалуюць вігі.

Улада цешыць з непрывычкі
Сярод пашаны і бяспекі,
Хоць дастаткова лёгкай пстрычкі —
І вы ўжо ў пекле картатэкі.

Твой дом, дзе ўночы плачуць совы
І па-ірландску дождж цярусіць,
Надзейнейшы за мармуровы,
Дзе лаўрэат дрыжыць і хлусіць.

А ты гаворыш нам: «Людская
Гісторыя трывае, верце!
І хто канца яе чакае —
Загінуў незваротнай смерцю.

Цягні свой флот, нашчадак славы,
На нітках недасяжнай мары,
А ліліпуцкія дзяржавы
Пабіць каменнем — хопіць хмары.

Пакуль твае зямля і неба,
Шукай і за мяжой шукання,

Усё астатняе — ганебна».
Я паспрабую, мой дэкане.

*1947*

* * *

Між неда-праўды
І неда-вар'яцтва,
Між неда-права
І неда-мастацтва,

Пад неда-небам,
У неда-айчыне,
Ты неда-нявінны
І неда-злачынны.

## Трывога-сон (1918)

Ворша — страшная станцыя. Тут цягнік
　　　　　　　　　　　　　　прастаяць можа суткі.
То, можа, я ў Воршы згубіўся, шасцігадовы,
І цягнік рэпатрыянтаў рушыў, пакінуўшы мяне

Назаўсёды. Так, быццам я зразумеў, што буду
Кімсьці іншым, паэтам іншае мовы і іншага лёсу.
Быццам пабачыў свой скон на берагах Калымы,
Там, дзе марское дно ўсё белае ад людскіх
　　　　　　　　　　　　　　　　　　　　чарапоў.
І мяне скаланула ад вялікай трывогі,
Што стала маці ўсім маім прышлым трывогам.

*Трепет малого перед большим*. Перад Імперыяй,
Што паўзе і паўзе на захад, з арканамі, лукамі,
ППШ,
На фурманцы, і кучара хвошча па спіне,
на джыпе,
У генеральскай папасе, з картатэкай здабытых
краінаў.
А я што — я толькі ўцякаю, сто, дзвесце, трыста
гадоў,
Па лёдзе і ўплаў, удзень і ўначы, каб толькі
далей,
Пакінуўшы роднаму берагу панцыр дзіравы
і куфар шляхецкіх папераў,
Бягу за Дняпро, за Нёман, за Буг, за Віслу.

Ажно прыбываю ў горад высокіх дамоў, доўгіх
вуліц,
І мучыць мяне трывога, бо дзе мне, вяскоўцу,
да іх,
Бо толькі ўдаю, быццам мне зразумелая хуткая іх
гаворка,
Спрабую ад іх схаваць свой сорам, сваю паразу.

Хто мяне тут накорміць, калі крочу пахмурным
світанкам
З драбязою ў кішэні, толькі на каву, не болей?
Уцякач з уяўных краінаў, каму я тут буду
патрэбны?

Сцены каменныя, вусцішныя, абыякавыя.
Парадак не для майго, для іхняга разумення.
Цяпер сядзі і не рыпайся. Не ўцячэш далей.

*1985*

## Сэнс

— Калі я памру, я ўбачу падшэўку свету.
З іншага боку, за птахам, гарой і заходам сонца.
Сапраўдныя знакі, што прагнуць,
каб іх расчыталі.
І зробіцца слушным усё, што было няслушным.
І зробіцца ўцямным усё, што было няўцямным.

— А калі няма ніякай падшэўкі свету?
Калі дрозд на галіне — гэта зусім не сімвал,
Проста дрозд на галіне, а дзень і ноч
Настаюць па чарзе і не дбаюць пра сэнс,
І нічога няма на зямлі, апроч гэтай зямлі?

Калі нават і так, усё адно застанецца
Слова, абуджанае ў нетрывалых вуснах,
Што бяжыць і бяжыць, нястомны пасланнік,
У міжзорных палях, у вірах галактык,
І крычыць, і гукае, і пратэстуе.

*1991*

*Ян Твардоўскі*

## «У Бэтлееме, убогім доме...»

У тую ноч, якая шчэ не ведала, што яна святая
ні лісліўцы
ні падлізы
ні кандыдаты ў саноўнікі
ні службоўцы
ні спрытнюгі
ні ганарліўцы, якія «былі там першыя»
ні рэпарцёры з тэленавінаў ні журналісты
але найбліжэйшыя
                                        заўсёды родныя
непісьменныя з вялікім сэрцам
і тыя цары, што шукаюць
беглі стрывожаныя —
ці не прастудзіўся Ён
ці зорка Яго не спалохала зблізку
ці сухія ў Яго пялюшкі
ці не ахрып Ён пад пекныя спевы анёла
ці не колка Яму на сене
ці асёл не брыкнуў свайго большага брата —
                                                                  паважнага вала
пакуль разумнікі абураліся
усёмагутны Бог стаў чалавечым дзіцём
і бязрадна выцягнуў рукі
а свет не перакуліўся
толькі — згорблены — усміхнуўся
                                                  і пачаў выпростваць спіну

# Пра фіранкі ў стайні

Каб тады, у святую ноч
калі свяціла адна зразумелая зорка
яны прыйшлі да Цябе
з верай што трэба ўсё мець каб не перастаць
быць
баючыся бездапаможнасці Твайго нараджэння
можа яны б укрылі Цябе цёплаю коўдрай
павесілі ў стайні фіранкі
справілі святому Язэпу пальчаткі
а лепей тоўстыя рукавіцы
правялі цэнтральнае ацяпленне
самыя важныя прасілі б для Цябе ў жылканторы
кватэру з выгодамі
каб Ты не туліўся па чужых кутах
скептыкі ўбачылі б у гарэзлівым восліку
траянскага поні з нячыстым сумленнем
самыя адважныя пратэставалі б спасылаючыся
на Дэкларацыю правоў чалавека й грамадзяніна
і ўсе дэкрэты пра свабоду веравызнання
паэты б упрыгожвалі Бэтлеем лірычнымі
выкрутасамі
мастакі мазалі б залатым пэндзлем
у найлепшым выпадку Табе маліліся б
як маленькаму алігарху
якога наўмысна паклалі тут на сена
а ты тлумачыў бы шырока адкрытымі вачыма
тулячыся шчакою да замерзлай маці
што Ты напраўду ёсць
а таму аддаеш усё

## Нашто існуе Раства

Нашто існуе Раства?
Нашто мы ўглядаемся ў зорку на небе?
Нашто спяваем калядкі?

На тое каб вучыцца Божай любові
На тое каб падаваць адно аднаму рукі
На тое каб усміхацца адно аднаму

На тое каб адно аднаму прабачаць

Каб ніводная чараўніца праз трыццаць гадоў
не зрабілася ведзьмай

*Збігнеў Герберт*

## Дзве кроплі

палалі лясы —
а гэтыя двое
сплятaлі рукі на шыях
нібы букеты ружаў

людзі ў сховішчы беглі
а ён казаў што ў жонкі валасы
ў якіх можна схавацца

накрыўшыся адным пледам
яны шапталі бессаромныя словы
малітву закаханых

А калі было вельмі кепска
з галавой зануралiся ў вочы насупраць
і замыкалі іх моцна

так моцна што не адчулі агню
які даходзіў да веек

да канца былі мужныя
да канца былі верныя
да канца былі падобныя
як дзве кроплі
на краі твару

# Ружовае вуха

А я ж думаў
што добра яе ведаю
бо столькі гадоў
жывем разам

яе птушыную галаву
белыя плечы
жывот

але аднойчы
зімовым вечарам
яна села каля мяне
святло лямпы
падала ззаду
і я ўбачыў ружовае вуха

смешны пялёстак скуры
ракавінка
з жывой крывёю ўсярэдзіне
я тады нічога не сказаў —

а добра было б напісаць
верш пра ружовае вуха
але не такі каб казалі
ну вось выбраў сабе тэму
зноў арыгінальнічае

каб ніхто нават не ўсміхнуўся
каб зразумелі што я
выдаю таямніцу

я тады нічога не сказаў
толькі ўначы калі мы ляжалі побач

далікатна каштаваў
экзатычны смак
ружовага вуха

## Пасланне Пана Когіта

Ідзі куды пайшлі тыя да цёмнага краю
па залатое руно нябыту тваю апошнюю
ўзнагароду

выпрастаны ідзі сярод тых на каленях
тых павернутых спінамі і павергнутых ніцма

ты ўратаваўся не для таго каб жыць
у цябе мала часу а трэба сведчыць

будзь адважны калі здраджвае розум будзь
адважны
па апошнім рахунку толькі гэтае лічыцца

а бяссільны твой Гнеў хай будзе як мора
кожнага разу як будзеш чуць голас зняважаных
бітых

хай не пакіне цябе сястра твая Пагарда
да баязліўцаў шпегаў і катаў — яны перамогуць
і на тваім пахаванні з палёгкаю кінуць жменьку
а караед напіша палепшаны твой жыццяпіс

і не выбачай сапраўды не ў тваёй гэта ўладзе
выбачаць ад імені тых каму здрадзілі на світанку

але сцеражыся марнае пыхі
глядзі ў люстэрка на свой блазанскі твар

паўтарай: я быў пакліканы — а ці ж не было
лепшых?

сцеражыся чэрствасці сэрца любі ранішнюю
крыніцу
птаха з невядомым імем дуб зімовы
святло на муры раскошу неба
ім непатрэбны твой цёплы подых
яны для таго каб сказаць: ніхто цябе
не суцешыць

пільнуй — калі святло на гарах дае знак — устань
і йдзі
пакуль кроў кружыць у грудзях тваю цёмную
зорку
паўтарай чалавецтва старыя заклёны байкі
й легенды
бо так здабудзеш дабро якога ты не здабудзеш
паўтарай вялікія словы паўтарай іх упарта
як тыя што йшлі ў пустэльні і гінулі ў пяску

а ўзнагародзяць цябе тым што ёсць пад рукамі
пугаю смеху забойствам на сметніку

ідзі бо толькі так ты будзеш прыняты
ў таварыства халодных
чарапоў у гурт тваіх продкаў:
Раланда Гектара Гільгамеша
абаронцаў краіны без межаў і гораду попелу

Будзь верны Ідзі

# Што я магу зрабіць для вас яшчэ

Шмат чаго
адчыніць акно
паправіць падушку
халодную выліць гарбату

— і гэта ўсё

— усё

так мала
і так шмат

бо трэба гэта ўсё
зрабіць старанна
і з сэнсам

каб адчыніць акно на ўсю вясну
каб пухам галаве была падушка

*Рышард Крыніцкі*

## Выпраўляйся ў вандроўку

*Анджэю Урбановічу*

Выпраўляйся ў вандроўку — нерухомую, —
што наблізіць да цябе рухомы свет,
прывідную вандроўку, што зробіць цябе
рэальным
у яскрава белым світанку;

у непранікальную цемру — найчысцейшую
светліню,
што не мае канца і пачатку,
светліню, што толькі і ёсць;

мінаючы бясконцыя вакзалы, часам адзіны твой
сталы адрас,
забываючы твары ўлюбёных ворагаў
і найдалейшых сяброў,
забываючы ймя каханай жанчыны — каб лепей
яе запомніць,
каб не стала адно адказам
на пытанні, якіх задаваць не мусіш, бо можаш
раніць,
перамагаючы сон — чароўную недагаворку
смерці,
адмаўляючыся ад чарговых уцёкаў — маленькай
метафары
бясконцасці, што хаваецца ў любой чалавечай
справе;

у падарожжа — смяротнае, — у якім ты
ўваскрэснеш,
у падарожжа да невядомай краіны, сталіцай якое
можа быць таямніца,

а любая жыхарка завецца блюзнерча
прыўкрасным імем Марыя,
хай цябе не падмане спакуслівы водбліск ліхіх
чалавечых справаў,
хай вядзе за сабою яшчэ не народжаная,
безназоўная

зорка

## Тры вершы толькі для цябе

### Што б ні рабіў

Не ўсё на свеце раблю з кахання да цябе.
Але кахаю цябе,

што б я ні рабіў.

### Ціхае, высокае

Ціхае, высокае,
вераснёвае святло
разгараецца за акном.

Я сумую па табе.

## Вазьмі мяне

Вазьмі мяне ў свой сон.
Няхай я ў ім застануся.
Няхай буду ў ім кружыць,
пакуль не растану

пад тваімі павекамі.

## Якога няма

Бойся Бога,
якога няма

ў тваім сэрцы.

## Каты

«Каты́ атрымаліся ў Госпада», —
любіць паўтараць Віслава Шымборска.
Часам дадае: «Толькі».
Часам: «Болей за ўсё».

## Сёння ўначы

...als ein Kranich
*П. Ц.*

Сёння ўначы я цябе наведаў у сне
жураўлём.

(Ты не будзеш пра гэта помніць, калі прачнешся,
ты не можаш пра гэта помніць —
адзін заўжды памята́е штось іншае, чым другі,
адзін заўжды адчувае іначай.)

Чаму жураўлём? Я не ведаю.
Але я прагнуў цябе, хоць не ведаю нават,
ці быў мужчынам.
(Ты, зрэшты, мела
свайго.)

Што я рабіў? Нічога, толькі нема крычаў
на досвітку ў тумане

за сямю гарамі,
за сямю лясамі,
што выраслі ў гэты час
між табою і мной,

за сяміплыннымі рэкамі лёсаў —

у тваім, у маім? Я
не ведаю?

*Станіслаў Бараньчак*

## Калі парцаляна, то толькі такая

Калі парцаляна, то толькі такая,
якой не шкада пад ботам нашэнніка альбо
тракамі танка;
калі фатэль, то не надта выгодны, такі,
каб не было прыкра ўстаць і пайсці;
калі адзежа, то каб панесці ў валізцы,
калі кнігі, то каб панесці ў памяці;
калі планы, то каб на іх можна было забыцца,
як надыдзе пара зноўку перасяляцца
на іншую вуліцу, кантынент, гістарычны этап
альбо свет:

хто сказаў, быццам можна прызвычайвацца?
хто сказаў, быццам штось бывае назаўжды?
хіба ніхто не казаў табе, што ты ніколі
на гэтым свеце
не будзеш пачувацца як дома?

## Разам з пылам

Разам з пылам на кнігах, з адбіткамі
пальцаў на шкле (асцярожна,
не кантаваць), з прадуктовымі
карткамі, з паседзімо на дарогу (асцярожна,
не забыць); я павінен адсюль пераехаць
разам з працаю ўрыўкамі, з тысячай тэрмінаў
у мазгах (асцярожна, не перастаўляць),
разам з тысячай

на чорны дзень (асцярожна,
не сурочыць), з добрай мінаю, з дрэннай гульнёю
і з ранаю
навылёт, з абяцанкай-цацанкаю і спадзяванкаю
навырост (асцярожна, не давяраць), разам
з можна калі асцярожна і трэба кроў з носу,
і будзем як штык, як магіла
(асцярожна, не паміраць), з пачынаем нанова,
з пастукаем на ўсякі выпадак, з
усё на глум; разам з гэтым каханнем, якое
адзінае мне засталося: назаўсёды, напраўду
і наперакор, асцярожней, нашэннікі,

гэта ўсё шмат цяжэй, чым здаецца.

*Яцак Качмарскі*

## Анкор, яшчэ анкор

*Паводле карціны П. Фядотава*

Я маю ўсё, што мець патрэбна афіцэру, —
Здароўе, сілу, адукацыю і веру,
Сям'ю любімую і некалькі жанчын,
Гітару, пса і не такі малы ўжо чын!
Я дасягнуў свайго, бо я чагосьці варты:
Сярод заснежаных палёў — начальнік варты.
Агеньчык лямпы калыхаецца ўваччу.
Пёс цераз шпагу скача — я яго вучу!

Не кідай на дзверы свой позірк сабачы,
Там ноч, ваўчыны сковыт і завея ўвесь час!
Скачы, каму кажу, хачу бачыць, як скачаш!
Анкор, яшчэ раз!

За пастарункам змрок і снежная дарога.
Як вартаваць, калі нікога і нічога?
Апроч пацёртых шынялёў і аднаго,
Што тут сядзіць і сам не знае — для чаго.
Лічу маснічыны, нуджуся і чакаю,
А часам шпагай пратыкаю прусака я.
Што падпіраў шчаку, заўважна па адбітку
На сумным твары афіцэра нападпітку.

Пёс, не глядзі на дзверы — там холад сабачы,
Там ноч, ваўчыны сковыт і завея ўвесь час!
Ану скачы, каму кажу, ой зараз паскачаш!
Анкор, яшчэ раз!

Ёсць іншы свет, Парыж і Вена, Альпы, Анды...
А тут сабака, што не слухае каманды.
Ёсць зоркі ў небе. Іх не бачна, бо завея.
А я хаджу па хаце, бо нага дранцвее!
Я звякну шпорай, у адказ сабачы брэх,
І рэзануе з ім гітара, як на грэх.
Бяру акорд, пяю — і маю пачуццё,
Што ўжо аднойчы жыў тут гэтае жыццё...

Пудзель, не лайдачыць на службе сабачай!
Тут ноч, ваўчыны сковыт і завея ўвесь час.
Ану скачы, каму кажу, чаго ты не скачаш?!
Анкор, яшчэ раз!

Так і жыву. Сабака чуе маю скруху.
Я штось вярзу. Сабака слухае ў паўвуха.
Я ем і сплю, і лепш не думаць, што пасля.
А століль так нізка — не памесціцца пятля!
Гляджу ў акно і бачу там замест зімы
Сабаку, лямпу і таго, з кім выпʼем мы!
За тым акном няма нічога, й гэта значыць —
Прычын саромецца няма, ніхто ж не бачыць!

Дык не глядзі мне ў вочы! Твой позірк сабачы,
Калі я пʼю ўдваіх з гарачкай, — як нямы дакор!
І не ліжы рукі таму, хто бʼе цябе і плача!
Анкор! Яшчэ раз анкор!

*1977*

## Муры

Ён быў натхнёны і малады,
Іх незлічона было.
Ён на плошчы вёў гарады
З песняй, што блізка святло.
І запальвалі свечкі яму,
Плыў па-над плошчаю дым.
Ён спяваў: зруйнуем турму!
Яны спявалі за ім:

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Ведалі словы на памяць — і спеў
Неслі па вуліцах так,
Што кроў кіпела, і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.
Білі ў сто тысяч далоняў — і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім свеце старым...
А ён усё граў і спяваў.

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая раць,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разбіраць.

Кожны адчуў — прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто не з намі — той супраць нас!..
Спявак быў сам па сабе.

Глядзеў, як шчыльныя рады
З ягонай песняю ідуць,
А песня глухне, глухне, глухне...
А муры растуць, растуць...

Разбуры турмы муры!
Прагнеш свабоды — то бяры!
Мур хутка рухне, рухне, рухне —
І пахавае свет стары!

*1978*

## Ноеў каўчэг

Лета. Сонца. Зяляніна
Разлілася, бы ў паводку.
Купа працы ў селяніна,
Я ж, дзівак, будую лодку.
Пчолы радуюцца кветкам,
Хлопец дзеўку ў жыце, бач ты...
Я ж майструю — Бог мне сведкам! —
Нос, карму, стырно і мачты.

Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Пакуль зліва не лье згары!
Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Ўсіх, хто любы, ў каўчэг збяры!
Пакуль не б'юць маланкі грозна,

Хай падымуць цябе на смех.
Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Ўсё, што любіш, збяры ў каўчэг!

Мушу лодку мець такую,
Каб змясціць усё жыццё мне.
Чалавек адно мяркуе,
Бог жа выракуе, помні!
Хтось не верыць маім словам,
Кажа: «Твой патоп — фальшыўка!»
А каўчэг амаль гатовы:
Ёсць барты і ёсць абшыўка.

Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Што б ні раілі дурні й хто б
Табе ні плёў, што несур'ёзна:
Бачыш хмару — ідзе патоп!
Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Прадчуванням павер хоць раз!
Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Гэта хмара ідзе да нас!

Кожны можа быць каўчэгам,
Акіяны кілем змерыць,
Навальніцу мець начлегам,
Трэба проста ў гэта верыць!
Хвалі йдуць сваёй хадою,
Не паверылі ў іх моц вы,
Дык выплёўвайце з вадою
Дапатопныя прароцтвы!

Будуй каўчэг, пакуль не позна,
У барты б'ецца хваляй лёс!
Хто рагатаў, рыдае слёзна

Над патопам уласных слёз.
Будуй каўчэг, пакуль не позна:
Страшны Суд, дык рыхтуй ладдзю!
Будуй каўчэг, пакуль не позна,
Твой апошні адказ Суддзю!

*1980*

## Наш клас

Раскажы, што з нашым класам, —
Піша Павал з Тэль-Авіва.
Цяжка выжыць гэтым часам,
А тым болей — жыць шчасліва.
Раскажы, што з нашым класам.
Чэсь у шведскім порнаклубе.
Кажа, добра плацяць асам.
Зрэшты, кожны гэта любіць.

Грамадзянамі Канады
Хутка будуць Пётр і Кася,
Ян у Францыі даў рады,
Бася ў Штатах засталася.
Марта з двойняй пад Варшавай,
Цераз месяц будзе трэці.
Час валіць — з такой дзяржавай
Ёй нічога тут не свеціць.

Магда выйшла за мадрыдца,
Што павёўся на цяжарнасць.
А Мацей не змог скарыцца
І памёр за «Салідарнасць».
Магда сябравала з Юркам,

Што быў зоркай школьнай сцэны.
Юрка добрым стаў хірургам,
Але брат яго ўскрыў вены.

Філ стаў фізікам, вядома,
І ў Маскве зрабіў кар’еру.
Кожны год бывае дома,
Сябра нашаму прэм’еру.
А Міхась у турмах высах,
Бо не стаў страляць у Стася.
Я ж складаю жыццяпіс іх.
Вось і ўсе, хто быў у класе.

Хтосьці з’ехаў, хтосьці ў Польшчы,
Хтосьці заўтра — у дарогу,
Хтосьці ўжо даўно нябожчык,
Хтось жывы — і дзякуй Богу!
Я збіраў усіх старанна,
Я праводзіў паралелі,
Быццам сыпаў соль на раны,
Раны моцна не балелі.

Сталі жонкамі дзяўчаткі,
Хлопец — дзедам. Хутка фініш.
Маладосць паўзе спачатку,
А пасля яе не спыніш.
Кожны — бог у свае сорак,
Спіць даўно ў сваёй пасцелі.
Нібы ўсе ляцім да зорак,
А ці гэтага хацелі?

Што са мной? Пра што я мару?
Памяць мучае старая,
Быццам мацае іх твары

І ўсляпую паўтарае
Ўсе дзіцячыя аблiччы,
А яны — наўцекача.
Я ж чакаю, хто пакліча
Ў хованкі або ў квача...

Прарастаючы паволі,
Кожны цягне што ёсць сілы
Лісце, парасткі і голле
Ад калыскі да магілы,
Каранямі — з таго свету,
Хтосьці ўправа, хтосьці ўлева...
Аж не верыцца, што гэта
Ўсё — адно і тое ж дрэва.

*7.5.83–3.6.87*

## Лабухі

Маем заробак, хопіць для п’янкі,
Мала для сына, дома і дрэва.
Выступ штовечар, лекі шторанку.
Цешым на святах танцу і спеву
Жарсць німфаманкі.

Марных ілюзій хочацца — наце!
Нашыя ролі, песні і вершы —
Прывід надзеі, што ў клаўнадзе
Мы ўваскрашаем, робячы першы
Крок па канаце...

Крочым п’яныя з танных бараў,
Кладземся спаць з кім не варта,

Не паспеўшы скінуць адзення.
Але муза спусціцца з хмараў,
Рэшткі сну скрадае — і ўпарта
Гоніць нас паміраць на сцэне.

Хто не баяўся, страх не адпрэчыць.
Верыць каханню — незакаханы.
Моц смерці славіць сын чалавечы.
Над чысцінёю плачуць заганы —
Перш чым знявечыць!

Як не разбіцца — наша турбота:
Робім на сцэне, складзенай крыва,
Сёмае неба — з сёмага поту,
Дзівячы сытых з кухлямі піва
Полымем з рота...

Крочым п'яныя з танных бараў,
Кладземся спаць з кім не варта,
Не паспеўшы скінуць адзення.
Але муза спусціцца з хмараў,
Рэшткі сну скрадае — і ўпарта
Гоніць нас паміраць на сцэне.

Простым пытаннем зваляць любога
Строгія суддзі — юныя фаны:
Ў кожным схавана каліўца Бога,
Што апантана просіць нірваны
Ў д'ябла самога!

Перакладаем грэшную оду
Песняй змагання, бітвы з няўхільным,
Просячы ў цемры узнагароду:
Зброю — бяззбройным, сілу — бяссільным,
Вязням — свабоду...

Крочым п'яныя з танных бараў,
Кладземся спаць з кім не варта,
Не паспеўшы скінуць адзення.
Але муза спусціцца з хмараў,
Рэшткі сну скрадае — і ўпарта
Ґоніць нас паміраць на сцэне.

Пляжыць святое — вечная праца
Каранаваных на карнавалах,
Вымавіць праўду — і не баяцца...
Ґеніі густаў недасканалых,
Банда паяцаў!

Злыя анёлы, добрыя чэрці,
Возім па свеце ўзлёты і хібы.
Біце, хваліце, верце, не верце...
Круцяцца колы — вечныя, нібы
Смерць і бяссмерце.

Крочым п'яныя з танных бараў,
Кладземся спаць з кім не варта,
Не паспеўшы скінуць адзежы.
Але муза спусціцца з хмараў,
Рэшткі сну скрадае — і ўпарта
Мы іграем, як нам належыць.

*1991*

# З РУСКАЙ МОВЫ



***Восіп Мандэльштам***

* * *

Я п'ю за вайсковыя астры, за ўсё, чым я грэшны
здавён,
За барскае футра, за астму, за горыч
пятропальскіх дзён.

За музыку хвояў савойскіх, прапахлых бензінам
алей,
За ружу ў кабіне ролс-ройса й парыжскіх
палотнаў алей.

Я п'ю за біскайскія хвалі, альпійскіх чародаў
дары,
За рыжую пыху брытанак, за смак езуіцкай кары.

Я п'ю, ды яшчэ не прыдумаў — і з двух абіраю
адно:
Вясёлае асці-спумантэ ці папскага замка віно.

## Ленінград

Я вярнуўся ў мой горад, знаёмы да слёз,
Да пражылак, прыпухлых дзіцячых залоз.

Ты вярнуўся сюды, то ўпусці ў сваю кроў
Рыбін тлушч ленінградскіх рачных ліхтароў.

Адшукай сваю постаць у снежаньскім дні
З горкім дзёгцем, размазаным па жаўціні.

Пецярбург! Я яшчэ паміраць не хачу:
Нумары тэлефонаў тваіх уваччу.

Пецярбург! У мяне яшчэ ёсць адрасы,
Па якіх я памерлых знайду галасы.

Я на лесвіцы чорнай жыву, і знарок
Б’е па скронях мне вырваны з мясам званок.

І чакаю ўсю ноч, што прыедуць *яны*,
І дзвярных ланцужкоў варушу кайданы.

* * *

За грымучую славу наступных вякоў,
За высокае племя людзей —
Я пазбаўлены чары на свяце бацькоў
Між вясёлых і годных гасцей.

Мне на плечы кідаецца век-ваўкарэз,
Але я не ваўчынай крыві:
Лепей футрам сібірскіх снягоў мяне спрэс,
Да гарачага поту, спаві.

Каб не бачыць, як смерць маю пішуць пісцы,
Як забойцу ад жаху трасе.
Хай палярнаю ноччу мне ззяюць пясцы
Ў першабытнай блакітнай красе —

Там, дзе ноч наўздагон Енісею цячэ
І хваіна да зор дастае...
Бо не воўк па крыві, бо не час мне яшчэ,
Бо мяне толькі роўны заб’е.

*Генадзь Айгі*

## Шчасце

— Там, дзе вочы гэтыя радзіліся,
было справакаванае святло...

Я кладу сіметрычна чарупінкі
на жанчыну чужую,
якая ляжыць на пяску.

А аблокі — як крыкі,
і неба ўсё ў гэтых крыках,
і мне адкрываюцца межы
паміж цішынёю і шумам —

ва ўсмешцы жанчыны
іх бачу, як швы на вятры;

і атрасаюся я, нібы конь,
між нашчадкаў прасценкаў і дробаў;

і думаю: хопіць з мяне, не мой гэта клопат,
трэ памятаць, што два чалавекі —
гэта і ёсць Біркенаў, —

о табу ты маё, Біркенаў маё,
гульня матэрыялу і жалеза маё,
цуд — не пасуе, *цудзейка* маё,
«я» — не пасуе, «*оой!*» маё!

*1960*

# Снег

Ад блізкага снегу
на падваконні кветкі дзіўнеюць.

Ты ўсміхніся мне хоць бы за тое,
што не кажу я словаў,
сэнсу якіх мне ніколі не ўцяміць.
Усё, што табе я магу гаварыць:

крэсла, снег, вейкі, лямпа.

І рукі мае
простыя і далёкія,

і аконныя рамы —
як белыя выцінанкі,

а там, па-за імі,
каля ліхтароў,
кружыць снег,

аж з дзяцінства нашага кружыць.

І будзе кружыцца, пакуль на зямлі
цябе згадваюць і з табою гавораць.

І бель камякоў гэтых калісь
я ўбачыў наяве,
і вочы заплюшчыў, і не магу іх
расплюшчыць,
і кружацца белыя яскаркі,

і не магу
іх спыніць.

*1960*

# Казімір Малевіч

...і ўзыходзяць палі ў нябёсы.
*З песняспеву (варыянт)*

дзе працу вартуе адно толькі вобраз Айца
і сілы не мае святарнае кола
і дошкі звычайныя не патрабуюць аблічча

а ўдалечыні — быццам спевы з царквы
не ведаюць больш песняроў-спадкаемцаў
пастаўленыя нібы горад
каторы не ведаў перыядаў ды эпохаў

таксама і іншая воля ў тыя тварыла гады
расстаноўку самое ж сябе —
горад — старонка — жалеза — паляна — квадрат:

...суцяшальны і просты як полымя ў попеле
Віцебск

— пад знакам намёку аддадзены і ўзяты ізноў
Велімір

— а Эль ён далёка ён лініяй для развітання

— гэта нібыта канцоўка для Бібліі: зрэз —
завяршэнне — і Хармс

іншымі здзейснены ў дошках
белай эскіз дамавіны

і — узыходзяць — палі — у нябёсы
ад кожнага — просты — напрамак
да кожнае — зоркі

і б’е і кіруе жалеза канцом
пад убогай зарою
замкнулася кола: нібыта з нябёсаў убачана праца
каб бачыць нібыта з нябёсаў

*1962*

## З’яўленне снегу

Мяккі і блізкі падлетак няпэўны
у студню у студню
мой сон спалатнелым прарэзаўшы тварам

мяне асвятляе ўздоўж сэрца

й назаўтра са дна раніцою вяртаецца
кветкі на вокнах нявечыць
мне ранячы вусны чырвоным

святлом старых світак
нябачны нябачаны снег

ён там нерухомы
дзе мае пачэсны пасад
                    нібы крэсла што сонца здалёк асвятляе
дзе толькі яны

без скуры народжаныя нібы кроў
і без іншай скарынкі

дзе ярчэйшы — ад печы да неба — агонь
                                        нібы вобраз праяўлены ваш

у дзяцінстве на вуліцы

ў полі і ў доме астрожным

на камені ў жоўтай паперы

*1963*

## Лясы — наўпопяць

у смузе
зіхацення радзімы
выспамі засталіся перламі засталіся
лясы да якіх
не дапаў я ніколі —

— дзіцячае штось памятаю: ці то плечукі
                                        выдаваліся ў іх —
                                                        і бялелі ў кірунку палёў

ці то скаргай
раптоўнаю рух расслабляўся: хутчэй у тузе
чым угледны — на тым недасяжным
узлеску —
(я бачыў такія — так блізка
ды хутка
застаўся адно толькі вецер —

лёгка я — быццам у ветры — вучыўся
лёгка ўсвядоміць што ўжо не вярнуцца) —

у святле скрыжаванняў-далінаў
здавалася — дзеці ў траве прачыналіся
песня намацвала словы — дзесь побач
нібыта
адтуль —

у смузе зіхацення сусвету
перламі засталіся выспамі засталіся:

балюча — больш чым у жыцці — зіхацець

*1985*

## *Бэла Ахмадуліна*



Па вуліцы маёй за годам год
сябры мае сыходзяць крок за крокам.
Сябры мае так доўжаць адыход,
што прыцемкі за шыбай сталі змрокам.

У іх дамáх не спевы, а туга,
для музыкі — ні часу, ні прасторы...
Адно ў блакітным мроіве Дэга
дзяўчаткі апраўляюць свае пёры.

Ну што ж, хай не атруціць вусціш кроў
сябрам, безабаронным гэтай ноччу.
Ды нават у адданых мне сяброў
таемнай прагай здрады ззяюць вочы.

О адзінота, нораў твой круты!
Паблісквaючы цыркулем сталёвым,
так холадна праводзіш кола ты —
ніякай літасці бяссільным словам!

Пакліч мяне, каб марнасцю надзей
не ашукаць абранніцы амбітнай,
суцешыць, прытуліўшы да грудзей,
сагрэць сваёю сцюжаю блакітнай.

Дазволь у твой заглыбіцца гушчар,
наблізіцца да лісця — што ёсць росту,
схаваўшы твар і атрымаўшы ў дар
шчаслівае сіроцтва, як прароцтва.

Тваіх бібліятэкаў цішыню,
суворы стыль канцэртаў і сімфоній
мне падары — і памяць зачыню
пра ўсіх памерлых і жывых да сёння.

І кожную спазнаю ў свеце рэч,
таемны сэнс даверацць мне прадметы,
прырода, прытуліўшыся да плеч,
адкрые мне дзіцячыя сакрэты.

І вось тады — у мораку начным,
у роспачы й надзеях без нагоды —
сяброў маіх абрысы па адным
пакажуцца і знікнуць, як заўсёды.

*Іосіф Бродскі*

## Калядны раманс

*Яўгену Рэйну, з любоўю*

Плыве ў журбоце беспрычыннай
паміж цаглянага надсаду
караблік зыркай аблачынай
ад Аляксандраўскага саду,
начны ліхтарык нечуваны,
як ружа жоўтая, прыгожы,
над галавой сваіх каханых,
ля ног прахожых.

Плыве ў журбоце беспрычыннай
пчаліны хор прапойцаў смешных.
Глядзіць маркотнымі вачыма
й фатаграфуецца замежнік,
і выязджае на Ардынку
таксоўка, хворая вякамі,
і сталі мёртвыя ў абдымку
з асабнякамі.

Плыве ў журбоце беспрычыннай
спявак маркотны па бульвары,
ля крамкі з газаю айчыннай —
маркотны дворнік круглатвары,
плыве з паненкаю кісейнай
стары каханак-малайчына.
Картэж апоўначы вясельны
плыве ў журбоце беспрычыннай.

Плыве ў імгле замаскварэцкай
плыўца ў няшчасце цяжкі подых,
гучыць гаворкаю габрэйскай
на жоўтых, на маркотных сходах,
і, плывучы ў журбу з мілосці,
каляднаю, нядзельнай госцяй
сумуе пекная дзяўчына
без дай прычыны.

Плыве ўваччу халодны вечар,
дрыжаць сняжынкі на вагоне,
марозны вецер, бледны вецер
апёк чырвоныя далоні;
ў агнях мядовых далягляды,
і пахне смачнаю халвою,
начны пірог нясуць Каляды
над галавою.

Твой Новы год на хвалі сіняй
за плыняй шуму гарадскога
плыве ў журбоце беспрычыннай,
нібы жыццё пачнём нанова,
і будуць зноў святло і слава,
удалы дзень і ўдосталь хлеба,
нібы жыццё хіснула ўправа,
хіснуўшы ўлева.

*28 снежня 1961*

* * *

Снег ідзе, пакідаючы ў меншасці свет.
Пінкертонам да ранку раздолле,
і сябе выкрываеш, бо знойдзены след —
непадробны і твой як ніколі.
Цішыня, але светла над кожным жытлом,
і ты бачыш сваімі вачамі
кожны зорны аскепачак, поўны святлом,
нібы лодачка — уцекачамі.
Не аслепні, глядзі! Ты і сам уцякач,
суччын сын, парушальнік закону,
прайдзісвет. За душой — ні халеры, прабач.
Пара з рота, бы профіль дракона.
Памаліся, як Той, з Назарэта, пра шлях
валацугаў далёкіх і блізкіх,
аб калядных дарах, самазваных царах
і пра ўсіх немаўлят у калысках.

*1980*

* * *

Я ўваходзіў заместа дзікага звера ў клетку,
выціскаў клікуху й тэрмін цвіком у бараку,
жыў ля мора, гуляў у рулетку,
абедаў чорт ведае з кім у фраку.
Бачыў свет з ледзяной вышыні, за крок да абвалу.
Тройчы тануў, двойчы рэзалі грудзі.
Кінуў краіну, якая мяне ўзгадавала.
Складзі ўсіх, хто мяне забыў, — цэлы горад
будзе.

Апранаўся па модзе ў тое, што перашыта;
вандраваў па стэпах, дзе гуны прайшлі ардою.
Чорным толем крыючы гумны, сеючы жыта,
не напіўся толькі сухой вадою.
Я ўпусціў сабе ў сны турмы варанёныя зрэнкі,
жэр хлеб выгнання, чужы абжываў падворак.
Дазваляў свайму горлу ўсе гукі, абы не енкі;
перайшоў на шорхат. Цяпер мне сорак.
Што сказаць пра маё жыццё? Мне яго хапіла,
каб дазнацца, што гора й страты — яго адзнакі.
Ды пакуль мне глінай рот не заб’е магіла,
з яго будуць чутныя толькі словы падзякі.

*24 траўня 1980 года*

*Вольга Седакова*

## Уступ першы да кнігі «Трыстан і Ізольда»

Паслухайце, добрыя людзі,
аповесць пра смерць і каханне.
Паслухайце, хто хоча,
бо гэта ў кожным дыханні.
Бо сэрца, як хлеба, шукае
і небу так дзякуе шчыра,
калі нехта забіты,
і нехта забыты,
і нехта пазбыты міру.

Манаскае адзенне
пашыем з цемры мы,
халоднай вады папросім,
паўночнае зімы,
што ззяе за тапаз ярчэй,
з расколінаю ўнутры,
набліжаны да самых вачэй,
калі ў задумнасці начэй
глядзяць на ліхтары.

Бо лёс наш — гэта толькі лёс
і больш нічога, не:
ні нас пільнуючая даль,
ні шчыт, ні рог і ні Грааль,
ні тое, што пры мне.
І знаўца не агорне жаль,
што свет, як снег, міне.

Як хочаш руш, душа, у шлях,
адно спагадай грэй.
Ды выйсці з кайстрай на прасцяг
нам, бачу, замінае страх —
чакаем ля дзвярэй.

Вам спадабаюцца яны
і ўвесь аповед пра іх.
Магчыма, нас няма даўно,
але, як вада вымывае дно,
гаворым, гаворачы толькі адно:
паслухайце жывых!

Як пачынаю гаварыць,
здаецца, што лаўлю
адзення напаўзніклы край,
здаецца, гавару: Бывай,
не пазнавай мяне, ды знай,
што я, як усе, люблю.

А калі гэта — толькі цень
схаванага ў труну,
я на каленях ля калень
у вочы ім зірну.
І калі болей гаварыць,
і вочы заплюшчыць, і словы забыць,
і рукі разняць, уяві —
адзенне будзе гаварыць,
як плынь маёй крыві.

Я буду хлусіць, але не спыняй:
я ж ведаю, што са мной,
я ведаю, рукі мае ў крыві
і сэрца пад зямлёй.

Але святло, што праз цемру і тло
святлом мне было і несла святло
праз вусціш нізаўя, —
жыццём мне было і праўдай было,
і болей мною, чым я.

## Хлопчык, стары і сабака

Хлопчык, стары і сабака. Быць можа, чыёсь
надмагілле,
мабыць, жанчыны, магчыма, старой.
Скуль нам ведаць,
як чалавек адлюструецца, гледзячы ў водную
плынь,
гладкую, як алебастр?
Магчыма, і так:
хлопчык, сабака, стары.
Наймаркотнейшы — хлопчык: — Мой тата,
правінаваціўся я і не выпраўлюся ўжо ніколі.
— Што ж, — прамаўляе стары, — выбачаю,
хоць ты не пачуеш.
Добра тут. — Добра тут? — Добра тут. —
У калідорах
Рэха з'яўляецца. — Ты мяне клікаў, і вось я
прыйшоў.
Тата, вітаю, а ў нас перароблены спальні.
Мама сумуе. —
Мой сыне, адзіны, чаканы, паслухай
на развітанне: заўжды і ва ўсім будзь шляхетны,
гэта найлепшая справа жывых...
— Мама прасіла сказаць...

— Будзеш шчаслівы.
— Калі?
— Заўжды.
— Гэта горка.
— Што зробіш,
так нам належыць. Сабака ўвесь час
на размоўцаў
моўчкі глядзіць: вочы гэтай белай вады,
гэтай карціны —
«хлопчык, сабака, стары».

* * *

Той вялікі мастак, хто не ведае доўгу
па-за тым, што бярэ яго пэндзаль,
і пэндзаль яго ў сэрца гор пранікае,
у прожылкаў лісцевых вензель,
адным ударам, адною пакорай,
захапленнем, трымценнем адным
ён пранікае ў саму несмяротнасць —
і тая бавіцца з ім.

Але той, каго пакідае дух,
ад каго адводзяць прамень,
хто дзясяты раз на мутным месцы
шукае чысты струмень,
хто выпаў з рукі дзівосаў,
ды ўпарта багоміць дзівосы, —
перад тым у вялікай пашане
схіляюцца долу нябёсы.

# З УКРАІНСКАЙ МОВЫ

*Алег Лышэга*

## Песня 352

Калі вам так заманулася пагрэцца,
Калі вам так хочацца перакінуцца хоць словам,
Калі вам так хочацца хоць трошкі цеплыні —
Не ідзіце да дрэваў — там вас не зразумеюць,
Хоць архітэктура ў іх проста касмічная
І з коміна віецца празрысты дымок..
Не ідзіце ў гэтыя горы хмарачосаў —
З тысячнага паверха
На вас могуць высыпаць жар..
Калі ўжо вам так не цярпіцца за цеплынёю,
Ідзіце на завеяны снегам гарод,
Там з краю стаіць самотная хата хрона..
..А вось і ўбогая хата хрона..
Свеціцца? — свеціцца.. ён заўсёды дома —
Стукайце ў хату хрону, стукайце ў гэтую хату..
Стукайце — і вам адчыняць..

*Васіль Герасімюк*

## Паэт у паветры

Каб расказаць пра хлопчыка,
які з першай паловы дваццатага стагоддзя
глядзіць з-за коміна,
як задыхаецца пры свечцы ягоны тата,
паміраючы зранку на Юр'я,
я зрабіўся паэтам, і гэта здарылася ў паветры,
у якім знік звон,
то-бок у другой палове дваццатага стагоддзя,
калі вырубалі пралясы.

А калі вырубалі пралясы,
тады зафарбавалі адкрытае сэрца Збаўцы
на абразах Прасвятога Сэрца,
баючыся ўжо не патопу,
а снегавога абвалу,
калі без грукату й шуму
у спрасаванай нябеснай цішыні
на твар сыходзіць строгі спакой —
такія абліччы адкапалі праз дзесяць дзён.

А калі душа адыходзіць без свечкі,
яна гібее ў прыцемках,
покуль іншая не прынясе,
і ў пустым паветры
несупынныя гэтыя воклічы
праз содні ці праз стагоддзі
страшнейшыя за воклічы крыві,
бо зліваюцца ў суцэльную вусціш,

і ў кароткім сне ты нутром пракрычыш:
«Каня!!!»

Паэт у паветры,
у якім знік звон,
заўсёды нагадвае найманую плачку,
што галосіць, сумленна пералічваючы
заслугі нябожчыка;
а яшчэ нагадвае дапатопную фабрыку на гары
Поп Іван,
якая жахлівыя свае вантробы
з пяці пяцісотлітровых катлоў,
што пагрозліва кіпелі пад самым небам,
ператвараючы карпацкі ядловец у эфірную мазь,
нібыта хавала ад самога Бога,
заўжды хутаючыся ў найцямнейшыя хмары,
ды хіба можна нешта ўтаіць ад Госпада
(нават калі ты найвышэйшая фабрыка
ў хмарах)?!
і неяк у траўні дваццаць сёмага года
некалькімі ўзмахамі няўгледных крылаў
змалацілі яе перуны і сполахі бліскавіцы,
і ў рассечаных хмурынах засталіся ад яе
толькі зорныя скразнякі паэта,
які ў апусцелым паветры ўсё-ткі найболей
нагадвае
старую самотную гуцулку,
што на каменным Грэгаце ў завіруху
выжыве без каровы і казы,
але ніколі без каня.

А калі я сядаю на каня,
я скачу вярхамі Чарнагоры
у хмарах, што пахнуць морам — болей за мора;

я скачу сумнымі палямі Галіччыны,
мужна ціхмянымі ў нежывым паветры;
я скачу ў гэтым паветры —
*гэта мой рытм*,
гэта рытм народжаных у сярэдзіне дваццатага
стагоддзя,
калі немаўлят яшчэ калыхалі ў калысках,
прывязаных да бэлек.

А калі нас калыхалі павольна,
мы ніколі не засыналі,
мы сінелі ад плачу, мы *задыхаліся*,
мы ненавідзелі працяглыя калыханкі продкаў;
і нашыя мацеркі
мусілі калыхаць нас *так*,
як уцякалі яны, цяжарныя,
як беглі сумнымі палямі Галіччыны
і вярхамі Чарнагоры ў хмарах,
што пахнуць морам — болей за мора.

Паэт у паветры,
у якім знік звон,
бяжыць з усімі за санямі,
на якіх з Грэгата звозяць
мёртвую старую гуцулку;
і ў нежывым паветры ён востра чуе,
як аглушальна бяжыць ён у снягах,
як галавакружна задыхаецца з усімі,
бо трэба пахаваць, покуль не зайшло сонца
(быццам бы сонца гэтага веку яшчэ не зайшло);
а дарога да могілак няблізкая,
а дзень зімовы кароткі,
і ён бяжыць за труною з усімі,
і ён правальваецца ў глыбокія сумёты

са свечкаю ў руцэ
і ўсімі сваімі задыханымі віДзежамі,
у найпершай з якіх маленькі хлопчык
пытаецца ў велічнай цёмнавалосай жанчыны
на кані,
нутром крычыць: «Ну калі ўжо тыя могілкі,
калі?!»;
а яна адно ўсміхаецца,
пераліваецца смехам, як горная вада ўвесну,
і конь нясе яе ў высокія яліны,
што будуць падаць,
падаць,
падаць
праз усё гэтае развясёлае жыццё
на гэтую зямлю,
дзе ты мусіш дагнаць дамавіну.

Каб расказаць пра таго хлопчыка,
я разатру на далоні апеньку,
і вы не пачуеце паху свечкі,
бо калі задыхаецца паэт,
ён пакідае паветра
са свечкаю ў руцэ,
каб той, хто прыйдзе пасля яго,
не насіў пры сабе дзвюх.

*Юрый Андруховіч*

## Індыя

1

Індыя пачынаецца, калі табе сняцца сны
пра выправу на ўсход, сюжэтныя сны, яны —
нібы фільм, па якім ты блукаеш героем-зухам.
Проста чуеш трубу, ці хвалі б'юць па ладдзі,
альбо голас табе шэпча: «Устань і йдзі!»,
але ты не пэўны, ці сэрцам пачуў, ці вухам.

Індыя — не паўвостраў. Хутчэй мацярык, і ён
мяжуе проста з Нічым. Ні атлас, ні лексікон
не прызнаюць, што Ніл — апошні край свету
ў цэлым
свеце. Што зоркі ў небе — проста начное шоу
у тэатры Бога. І, мабыць, час не прыйшоў —
мы па-ранейшаму плоскасць лічым сфераю.
Целам.

Мы лічым сфераю тое, што ляжыць, нібы корж.
Але ты, пачуўшы загадна-рэзкае «марш!»,
меч дастаеш і рушыш на ўсход, каб памерці.
І ты збіраеш хеўру вясёлых і злых рубак,
і яны ў паходзе спяваюць прыблізна так,
як анёлы ў нябесным херувімскім канцэрце.

Плоскасць — пустыняў і царстваў недасяжная
блізь,
над якою густая атмасферная высь
на сем варожых нябёс — зарука маны́ і ма́нны!
І толькі страціўшы коней, сяброў ды ўвесь абоз,

вінаградную ўпартасцю кручаных, бітых лоз
ты праб'ешся туды, дзе дарэчы слова «рахманы».

2

Марка Пола казаў няпраўду, калі
гаварыў, быццам мулы й аслы вялі
праз тыбеты цемрадзі, адылі
ўсё на ўсход яго — і так да Кітаю.
Шлях яго, найхутчэй, — гэта зман пятлі,
а відзежы ў дарозе — снамі былі.
Бо на ўсход папросту няма зямлі,
то-бок Індыя — гэта крэс, гэта — тое, што з краю.

Пра якое «на ўсход» тут можна казаць, аб чым
тут размова, калі ёсць мур на мяжы з Нічым,
за якім для нас — невымоўнасць, няўцям,
нішчым:
таго плоду не скаштаваць ні гурману, ні гурмам.
Што тут прашчы і прошчы, удары й дары —
тут пасуюць цары, ваяры, мысляры,
а таму гардыню сваю зміры —
гэты мур не з тых, якія бяруцца штурмам.

Гэты мур — найхімернейшы прывід, які
распыляе ўшчэнт неабсяжных Азій пяскі;
разбіваюцца ўсе караваны аб камень цяжкі,
бо над ім — толькі Бог: ажно душа затрымцела.
Толькі ты валацуга, і доляю бедака
ты вандруеш за плыняю, покуль цячэ рака,
покуль верыш, што на святло, нібыта з мяшка,
можна ўсё-такі выйсці. Цаною дурнога цела.

## 3

Увайшоўшы ў поўны птахаў гушчар,
уяві: прырода — майстроўня Бога,
па якой блукае твая знямога.
Можаш толькі ўпасці, схаваўшы твар.

Зялянiны мора прыйшло, як мор,
як патоп у пене, слізкі на дотык.
У раслінаў — гонар. Яны — наркотык.
У раслінаў — гучны пачварны хор.

«Зяляніна — што там! Яна — жытло
для рэптылій, цмокаў. І я ўбіраю
гэту гніль і слодыч — правобраз раю,
дзе не ўсё збылося і ўсюды зло».

Ты, што маеш меч ды нязломны дух,
што ўратуе цела, сячы, як Юрый,
рассякай гадзюкаў, гарпій і фурый,
расцінай пітонаў, нібы рапух!

Бо калі ўгары — звар'яцелы Бог
і вянцом тварэння стаў бестыярый,
дзе віруе рогат д'ябальскіх арый, —
мусіш падлай гэтай высцеліць мох!

Мусіш выйсці з цемрадзі ў барацьбе,
покуль Ясна Панна дае адвагі.
Ты, што срэбра бачыш у снах бадзягі,
дасягнеш яго. Ці яно цябе.

4

Вядома, што рака сплывае ў нізаўё —
цішэй за слімака, як плаванне тваё,
калі твая рука за шост бярэ кап’ё.

Ты ўгледзішся ў раку — і ўбачыш там не глей,
не рыбіну луску, што льсніцца, як алей,
не перлы на пяску, не вывадак лілей.

А ўбачыш, як у сне, — ты сам у той рацэ:
самотнасць у чаўне з жардзінаю ў руцэ,
уласны твар на дне і рана на шчацэ.

На беразе тых вод жыве хімерны люд:
пакручаны народ заняў раўніну тут.
Ты сам хацеў прыгод — зірні ж на тых паскуд!

Тут тысячы прынад і капыткі бы ў коз,
каханне цераз зад, а ежа цераз нос,
тут не бывае «над», бо пушчы да нябёс.

Тут чэравы — як лёх, а кроў — нібыта ўзвар,
тут дух, як мова, ссох, а мова — бы ў татар,
тут шасцірукі бог і даўгарукі цар.

Хто вылепіў наспех вось гэтакіх чартоў?
Бо кожны — смех і грэх! — уласнік капытоў
і кожнаму для ўцех падставіць зад гатоў!

І ты плывеш туды, не кінуўшы багра,
дзе трубны роў жуды з-пад сэрца і рабра,
дзе райскія сады й пякельная дзіра.

## 5

Прысутнасць паўсюль у гушчэчы трытонаў,
драконаў,
грыфонаў, піфонаў і тое, як выюць каты
у выглядзе духаў, з'яўленне камет і цыклонаў —
прыкмета, што дыхае пекла наўпоблізь. І ты
знаходзіш адтуліну гэтую, й крочыш у морак,
і йдзеш над агнём. І хістаюцца крохка масты,
і хто яго ведае — чэрці й харты, і хвасты.
Хрысці сабе, знай, несупынна —
сто сорак па сорак
разоў. Бо выправа стаецца ваеннай,
за похвы мяча і за локці хапае геена,
за криссе плашча і за плечы, і чуеш: «Плаці!»
Гэй, вы, там на небе, аглухлі?
Святыя ў жыцці
смяротных з'яўляюцца рэдка з вышыняў,
ды ўчасна.
Анёлы лятуць, бы ўваскрэслыя асы — па тры,
а то і па пяць, і па сем, і палаюць нязгасна
іх крылы й мячы, і цябе вызваляюць з дзіры,
і сад для цябе ўжо разгортваюць па вертыкалі:
вышэйшыя дрэвы, бліжэйшыя птушкі й дары
усё саладзейшыя, важкія: хочаш — бяры!
Сцягі, туліпаны, тымпаны і кнігі ў паркалі,
паветра, і мёд, і зусім невымоўная боскасць,
і ты — над зямною паверхняй, пакінуўшы
плоскасць
ужо назаўжды, хоць крывёю сплыві, хоць згары!
Табе застаецца спакойна свяціць угары.

*Сяргій Жадан*

* * *

Ён быў паштальёнам у Амстэрдаме,
слухаў «Аббу», сядзеў на траме,
па выходных — порна ў кіно.
Сябры яго, п’яніцы-радыкалы,
казалі яму: «Мы ўсё праўтыкалі,
па вушы ўляпаліся ў лайно.

У краіне стагнацыя і мудацтва,
лібералізм з прадажным лявацтвам...
Нават дзівішся, што жывы.
Еўразвязам кіруюць уроды,
яны гавораць: «Правы і свабоды»,
але купі-тка нармальнай травы.

Але яшчэ ёсць краіна на Ўсходзе,
дзе памятаюць аб нашым прыходзе,
дзе еўрапейцам вольным — Эдэм.
Давай туды, у жыццё з нябыту,
арганізуем каналы збыту
і культурны мост навядзем!

Там радасць сыходзіць на кожную хату.
Цэрквы маскоўскага патрыярхату
здымаюць сурокі і славяць джа.
Увесь тавар і любыя грузы
кантралююць там прафсаюзы,
і пра духоўнасць пяе душа!

Там п’юць абсэнт ад прастуды з маленства.
Там дэман — жаночае падабенства —

будзе кахаць да самай труны.
Шчасце проста стаіць на ганку!
Давай, чувак, прывязі «афганку»!» —
паўтаралі яму яны.

Ён крочыў на гэтую дзіўную трасу.
Авіялініямі Данбасу,
дзе на сняданак — толькі бухло,
прадчуваючы перамену,
вылецеў па-за межы шэнгену,
кінуўшы ўсё, што ў яго было.

І вось ён ступіў на зямлю ў Данецку,
з усіх замежных мог толькі па-грэцку
(ён чуў, тут па-грэцку гавораць усе)
і трапіў у рукі дзівоснай пары —
кіроўца на фордзе й сябрук на кумары...
І зоры заззялі ва ўсёй красе.

Кіроўца сказаў: «Усё нармальна, зёма,
давай, пачувайся у нас як дома,
мы ўсе — сябры твае, бачыш сам.
Трапіў у рай, дык не будзь бакланам:
едзьма ў Стаханаў, там столькі плану,
што хопіць вам на ўвесь Амстэрдам!»

Быў далягляд у сутонне закуты.
Стаяла зіма. Пачынаўся люты.
І месяц за імі гнаўся, як птах.
Трывожна свяціліся тэрыконы,
на Украіну ішлі цыклоны,
і душы танулі ў глыбокіх снягах.

На сорак пятым км іх руху
машына трапіла ў завіруху,

і змрок агарнуў іх мулам густым.
Кіроўца прамовіў: «Ёхан, брацішка,
па ходу, выходзіць, усім нам крышка,
маліся сваім растаманскім святым!»

Замерзла паліва й сціхла мова.
Смерць надыходзіла з боку Азова
і дэман смутку ў снезе іх пас.
Дэзадарант, каб сагрэцца, з рыльца
ён піў, і хацеў камусь дазваніцца,
і з тэлефона чуў у адказ:

«У дадзены час абанент недаступны.
Жыццё — наогул працэс падступны:
так, нібы тонеш ля самых буйкоў.
Смерць твая — невялікая страта,
проста мяняецца аператар —
і ўсё менш уваходных званкоў».

* * *

Што яна потым рабіла, куды пайшла,
з ейным пярсцёнкам на мезенцы,
з вясёлкаю на хусцінцы,
калі акно яе цёмнае раз’ядала імгла,
як іржа раз’ядае старыя эсмінцы?

Паліла бельгійскі тытунь, не ўмыкала святла.
Сварылася з паліцыянтам, што гнеў яе п’яны
вызнаў.
Брала сухое віно, гарбату ў фаст-фудах піла —
індыйскую, як акіян, чорную, як бялізна.

Піла за тое, каб болей ніхто не прыходзіў сюды,
каб агарнуў спакой душы залатую матэрыю.
Ляжала на цёплым спальніку — аголеная,
бы правады,
ціхая, быццам вада, сонная, нібы артэрыя.

Што засталося пасля яе? Спіс пазыкаў, які
я паволі выплачваў, кнігі заместа мэблі,
нейкія ворагі, нейкія сябрукі,
якіх я напраўду не ведаў, хоць ведаць напраўду
меў бы.

Засталіся рэчы ў шуфлядзе, нібы ў журбе,
каляндарык з месячнымі, каб я не мог памыліцца.
Засталася ейная брытва, якую я ўзяў сабе
і заўжды рэзаў твар, спрабуючы пагаліцца.

* * *

Яны селі за стол, накрыты на ўсіх,
паскідаўшы скуранкі і пінжакі.
Адрубілі мабілы, паклаўшы іх
на стале, між бутэлек, бліжэй да рукі.

Яны селі за стол. Іх ахова сышла.
Да аконнага шкла вечаровы туман
дакранаўся вільготным дыханнем цяпла,
нібы пальцы жанок — да адкрытых ран.

Ён усім наліваў, хто сядзеў за сталом.
Як самому сабе, усё, што было.
І такайскія віны, ямайскі ром
адбівалі блакітнага неба святло.

Наліваў і думаў: «Калі мы яшчэ
зберамося вось так, без ніякіх спраў?
Ўсе жывыя, і кроў яшчэ не цячэ.
Я іх сам знаходзіў і выбіраў.

Я іх сам крышаваў, нібы родных сваіх,
я іх вёў за сабой цераз цемру і страх,
я трымаўся за іх, я помніў пра іх
і запальваў сонца на іхніх сцягах.

Як адзін няголеныя, але
яны светам кіруюць, як я іх вучыў.
Я іх ведаю ўсіх, хто пры гэтым стале
глушыць ром і мадэру, якая гарчыць.

Я натхняю кожнага словам адным,
я даю ім надзею, веру і жарсць,
я кармлю іх, я наліваю ім.
Але хто з іх усіх мяне здасць?

Хто з іх сука, якая мяне закладзе?
Хто на вечныя клятвы плюнуць гатоў?
Хто таварыша кіне й пакіне ў бядзе
і ўсіх нас падвядзе пад валыны мянтоў?»

...Наймалодшы, што меў на шчацэ рубцы
й джынам паленым запіваў какаін,
нерваваўся так, як усе курцы,
што курыць не могуць свой нікацін.

І крычаў яму: «Бос, ну што за базар?
Мы парвём іх, нам дапаможа лёс,
наша зброя, і наш малады азарт,
і ўсе кулі, што маем у целах, бос!»

Але ён наліваў яму й гаварыў:
«Наш фартовы лёс — не на ўсе часы.
Ты ім першы сальеш, як націснуць згары,
ўсе рахункі, імёны і адрасы».

Малады маўчаў, не маючы слоў,
апусціўшы вочы ніжэй зямлі,
забываючы ўсё, што ён тут наплёў
і што іншыя перад тым наплялі.

...За акном унізе цякла рака,
аддаляючы іхнія спеў і плач.
І агонь ад далёкага маяка
пазалочваў дахі суседніх дач,

пазалочваў галіны дрэваў здаля,
пазалочваў машын танаванае шкло,
пазалочваў усё, што дала зямля,
пазалочваў усё, што будзе й было,

пазалочваў пакой, дзе была братва,
іх пагляды, словы і ўсё ў жыцці.
Бо нічога не зменіцца, толькі трава
будзе кожны год іначай расці.

Іх ахова стаяла каля дзвярэй,
усю ноч стаяла, крыху наўзбоч,
разумеючы, хто вядзе тут рэй
і каго яны вартавалі ўсю ноч.

А яны ўсё, што ў іх на стале было,
дапілі да рэшты — сабе на здзіў.
Потым кожны з іх уключыў мабло
і лічыў званкі, што за ноч прапусціў.

І над кожным паволі, паўзверх плячэй,
праступалі німбы, нібы агні
аварыйныя, каб іх бачыць лягчэй
было ў цішы, у цемры, на глыбіні.

* * *

Тую жанчыну з чорнымі, як зямля, валасамі
ведаю столькі год — нават пазна́ю крокі:
паміж мною ды іншымі адрасамі
ходзіць сабе, не турбуючыся ні трохі.

Ходзіць паміж святла й гарачага лісця,
ходзіць паміж муроў і птушыных крыкаў,
паміж ручаёў падземных, якія перапляліся,
паміж усіх сваіх сноў і фрыкаў.

Ходзіць сабе на стадыёны і рынкі,
хаваючы ў куртцы тэлефон і біклагу.
І я гатовы паліць у ейным квартале будынкі,
каб яна на мяне звярнула ўвагу.

Гатовы бамбіць урад і навалач абласную,
ператвараць у партвейн ваду ў азёрах і рэчках,
толькі б яна, згадаўшы, што я існую,
часам пісала лісты аб надвор'і ды іншых рэчах.

Гатовы ладзіць на ейнай вуліцы страйкі,
каб толькі быць з ейнай лютасцю і пяшчотай,
каб толькі слухаць яе надрыўныя байкі
пра тое, з кім яна спіць, па кім памірае ўпотай.

Я вынайду новыя літары, выраблю новы голас,
заб’ю ўсіх старых паэтаў, якія штось яшчэ
пішуць,
каб яна забывала ўсё, што ведала колісь, —
проста глядзела ў цемру, проста слухала цішу.

Ейную памяць заглушыць музыка дажджавая.
Неба за ейнымі вокнамі будзе стаяць парожнім.
Хай забывае пра ўсё.
Хай нават мяне забывае.
Толькі мяне хай забывае апошнім.

* * *

І калі адліга спыніцца на лугах,
калі дрэвы будуць стаяць у цёмных снягах,
свежы сцішаны вецер, сарваўшыся з узбярэжжа,
дакранецца й адчуе цяпло на яе губах.

Яе скура святлейшая за серабро ў малацэ,
нібы стома нябачнай слязой замрэ на шчацэ,
нібы рэчышча ўзімку засыпле зорамі й снегам,
і адбіткі памерлых стаяць у халоднай рацэ.

Бо даўно прамінуў п’янкі лістападаўскі фэст,
скавышы і завеі ўшываюцца ў кожны пад’езд,
покуль мовай паветра й вады на паўночных
прычалах
неадчэпнай прастуды яшчэ фармулюецца змест.

Гэта потым, калі тума́ны дойдуць сюды,
затапіўшы масты і прыгарадныя сады,

яна будзе штосьці казаць аб чорных прытоках
і заснежаных чоўнах, цяжкіх ад сцюжы й вады.

Бо ўсе словы, якія былі між ёй і табой,
пераплеценыя між сабой вераснёвай травой,
паглядзі, як сказанае вамі ўжо праступае
збітым подыхам вільгаці, музыкай гарлавой.

Захавай гэты рух у паветраных ямах цяпла,
паняверку, якая ўпарта яе вяла, —
і калі яна спынялася й замірала,
і калі яе не было,
і калі была.

# Змест

## З лаціны



## З французскай мовы

## З ангельскай мовы

## З нямецкай мовы



## З польскай мовы

## З рускай мовы

## З украінскай мовы

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 40

**Хадановіч** Андрэй

**РАЗАМ З ПЫЛАМ**

*Калекцыя перакладаў*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *К. Мацієўская*
Вокладка *М. Анемпадыстава*

Падпісана да друку 4.04.2013. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,25.
Ул.-выд. арк. 6,39. Наклад 500 ас. Зак. 199.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.